# К КУЛЬТУРА

ШТОТЫДНЁВАЯ ГРАМАДСКА-АСВЕТНІЦКАЯ ГАЗЕТА № 45 (307) 15 — 21 лістапада 1997 г. КОШТ 2000 РУБЛЁЎ

ДЫСКУТУЕ • ПРЭЗЕНТУЕ • РАЗВАЖАЕ

TV Усе каналы!


*Пайшоў ад нас Аляксандр Кішчанка. Выдатны мастак, стваральнік свайго касмічнага свету, чалавек надзвычайнай душэўнай шчодрасці, які любіў жыццё. Наша газета неаднойчы пісала пра яго, пра ягоныя новыя творы, уступала з ім у творчыя дыялогі.*

*Гэты мастак быў сапраўды універсальным, ён быў духоўным нашчадкам вялікіх майстроў Адраджэння: сярод ягоных твораў — філасофскі жывапіс і мазаіка, фрэска і манументальны габелен, кафля, пано і дэкаратыўная скульптура, графіка і кераміка. І цяжка сказаць, што ён больш любіў — пісаць чароўныя жаночыя твары, разважаць перад палатном пра адвечны кругазварот і дабрыню жыцця альбо вырашаць на практыцы складаныя пытанні архітэктурна-мастацкага сінтэзу. Але так ці інакш Аляксандр Міхайлавіч, нібыта фармацэўт з зёлак, складаў з фарбаў тую адзіную колеравую гаму-панацэю, што заўжды будзе служыць паратункам для чалавечай душы. А што можа быць больш прыгожым за колер, быццам сатканы з гарманічных музычных акордаў і ўплецены ў магутную візуальную партытуру палатна альбо габелена!*

*Ягоная Муза — гэта золата пялёсткаў сланечніка і блакіт нябёсаў; свяшчэнна-чысты беларускі арнамент і чароўныя рытмы Космасу.*



*У траўні наступнага года мастак марыў наладзіць персанальную выставу, прысвечаную свайму 65-годдзю. Горка ўсведамляць, што вернісаж адбудзецца ўжо без яго. Аднак, не. Аляксандр Міхайлавіч будзе з намі. У памяці чалавечай, у памяці сяброў і калег, у гісторыі айчыннай культуры... Ён застанецца назаўсёды...*

*"КУЛЬТУРА"ўцы*

# ЗОРКА, ШТО ЎПАЛА Ў НЯБЁСЫ





## КІШЧАНКА Аляксандр Міхайлавіч

Беларуская культура панесла цяжкую страту. 11 лістапада на 65-м годзе жыцця пасля цяжкай хваробы пайшоў з жыцця народны мастак Беларусі, лаўрэат Дзяржаўных прэмій краіны Аляксандр Міхайлавіч Кішчанка. Пайшоў выдатны майстар, грамадзянін і цудоўны чалавек, які ўсе свае сілы і талент аддаў беларускай зямлі і яе людзям.

Ён нарадзіўся ў 1933 годзе ў вёсцы Белы Калодзеж Багучарскага раёна Варонежскай вобласці. Тут, у Прыдонні, прайшло ягонае маленства і юнацкія гады. Прафесійную адукацыю Аляксандр Міхайлавіч атрымаў у Львоўскім дзяржаўным інстытуце ўжытковага і дэкаратыўнага мастацтва.

У 1963 годзе мастак прыехаў на Беларусь, дзе некалькі гадоў выкладаў на аддзяленні манументальна-дэкаратыўнага жывапісу мастацкага факультэта БДТМІ, адначасова актыўна займаючыся творчасцю і арганізацыяй габеленавай вытворчасці ў краіне.

У шэрагу сучасных мастакоў А.М.Кішчанка — творца, якому належыць адметнае месца. У мастацтве ён — з'ява шматбаковая, якая выклікае не толькі захапленне, але і здзіўленне. Ягоная творчая спадчына складаецца з соцень твораў, таленавітых і разнастайных: жывапісец-віртуоз, майстар філасофскіх карцін і партрэтаў, манументаліст, які выдатна валодаў тэхнікамі мазаікі, керамікі і габелена, цудоўны малявальшчык і каларыст; мастак, які пастаянна шукаў уласную сістэму пабудовы прасторы, свой пластычны стыль, заснаваны на ўзаемадзеянні двух пачаткаў: сімволікі, уласцівай прынцыпам манументальнай творчасці, і канкрэтнай жыццёвай пераканальнасці вобразаў.

У гісторыі мастацтва застануцца ягоныя жывапісныя разважы пра час і пра краіну; застануцца ягоныя мазаічныя пано, якія ўпрыгожылі сталічныя будынкі ў мікраранёне "Усход-1", гатэль "Турыст", праектны інстытут на Юбілейнай плошчы, роспіс у Місхоры, манументальныя габелены ў зале эканамічнага і сацыяльнага Савета ААН у Нью-Ёрку, у Мінскай музычнай вучэльні імя М.Глінкі, у тэатры музычнай камедыі, іншых дзяржаўных і грамадскіх установах. Ён — аўтар унікальнага "Габелена стагоддзя" — гэтай своеасаблівай "зорнай шпалеры", твора, які, без сумнення, увойдзе ў гісторыю сусветнага мастацтва.

Аляксандр Міхайлавіч Кішчанка пайшоў з жыцця ў росквіце сваёй творчасці і вопыту. Але ён шмат што паспеў зрабіць, шмат чаму навучыў іншых. Над якой бы тэмай і ў якім бы жанры ці відзе мастацтва ён ні працаваў, галоўным для яго заставалася высокае прызначэнне мастацтва, ягоная першасная гуманістычная місія. І мастацтва А.М.Кішчанкі годна несла гэтую місію.

Мастак высокага і светлага таленту, добрай і шчодрай душы, першаадкрывальнік новых светаў у мастацтве, ён застанецца назаўжды і ў гісторыі айчыннай культуры, і ў памяці ўдзячных людзей, дзеля якіх ён жыў і ствараў.

**А.Р.Лукашэнка, С.С.Лінг, П.У.Шыпук, А.А.Малафееў, М.У.Мясніковіч, У.П.Замяталін, А.У.Сасноўскі, У.В.Ярмошын, М.М.Яроменка, Г.В.Буралкін, Б.Ф.Герлаван, Г.Х.Вашчанка, В.А.Грамыка, Л.М.Гумілеўскі, М.В.Данцыг, А.М.Кашкурэвіч, Г.Г.Паплаўскі, М.А.Савіцкі, У.І.Стальмашонак, Я.Р.Чамадураў, Л.Д.Шчамялёў, І.В.Волчак, М.П.Дрынеўскі, А.А.Дудараў, Л.С.Екель, В.В.Зуёнак, Я.М.Кавалеўскі, І.М.Лучанок, Д.А.Сурскі.**

банты і праспявалі песню: "Мы ўсіх прыгажэй, мы ўсіх лепш!" Заявілі, што гэта гімн графікаў. Сёлета я чула, што нашых графікаў-першакурснікаў у студэнты будзе пасвячаць нейкі рыцар. На нашы мерапрыемствы часта прыходзяць розныя знаёмыя музыкі, да прыкладу — гурт "Барабанны экстаз". Выступаў на адным з пасвячэнняў яшчэ малавядомы на той час —"Ляпис Трубецкой".

**— А гэтыя пасвячэнні — ідэя саміх студэнтаў?**

— Так. Традыцыя, якая існуе ад пачатку заснавання акадэміі. Праўда, калісьці гэта былі звычайныя капуснікі. І раней гэта было досыць афіцыйнае мерапрыемства, але ўжо некалькі гадоў забараняецца праводзіць у сценах акадэміі шумныя вечарыны. Таму доўгі час студэнты самі, за свае грошы, наладжваюць розныя экзатычныя выступы-пасяджэнні-пасвячэнні.



Аўтапартрэт у люстэрку.

# ЧАС ПІЦЬ "ХЕРШЫ"

**— А ці існуюць у межах вашай установы нейкія легенды, дзіўныя гісторыі?**

— Існуе нейкі дурны жарт, што на месцы нашай акадэміі раней быў жаночы манастыр. І што да гэтага часу гэтыя манашкі зрэдчас з'яўляюцца. Кажуць, што, нібыта, хтосьці бадзяецца пад душавымі нашых акцёраў. Вар'яцкая ідэя. Кажуць, што пад акадэміяй нейкія падземныя хады, дзе і жывуць розныя прывіды. А яшчэ ў акадэміі некалі існаваў мужчынскі тэатр "Бамбукі"! У ягоную акцёрскую трупу ўваходзілі студэнты з БелАМа і з БУКа, адсюль і назва тэатра. Усе жаночыя ролі тут выконвалі толькі хлопцы. Вясёлыя былі паказы.



Апошні штрых.



Натхненне.

**— Наколькі я ведаю, фарбы, палотны, папера сёння каштуюць не мала. Як вас імі забяспечваюць?**

— Селёта нам далі 24 колеры фарбы, піцерскай вытворчасці — гэта выдатна, бо раней нам ніколі не давалі ў цвёрдых пакунках. Паперы па дзесяць аркушаў даюць кожны семестр. Але гэта, канечне, не дапамога — мастацкі жарт. Увесь час даводзіцца самім набываць фарбы за свой кошт. Скрынка фарбаў каштуе 500 тысяч, гэта пры тым, што сярэдняя стыпендыя ў БелАМе каля 400 тысяч!.. Таму трэба пастаянна нейк падзарабляць. Дзякуй Богу, і бацькі вельмі добра дапамагаюць.

**— А як ты зарабляеш?**

— Я афарміла 12 кніжак з бібліятэкі часопіса "Маладосць". Да прыкладу, нядаўна зноў тэлефанаваў мастацкі рэдактар і прапаноўваў працу. Канечне — 300-400 тысяч не шмат, але куды падзенешся? Многія студэнты з нашай акадэміі ў вольны час падпрацоўваюць у выдавецтвах. У мяне, як у мінчанкі, праблемаў менш за іншагародніх сакурснікаў. Галоўным чынам мяне турбуюць тэхнічныя моманты ў афармленні.

### Факультэт для коннай міліцыі

***Аксана АПРАНІЧ — студэнтка II курса Беларускага дзяржаўнага педагагічнага універсітэта імя Максіма Танка, вучыцца на факультэце пачатковых класаў (педагогіка і методыка пачатковага навучання).***

**— Аксана, як ты сустракаеш Дзень студэнта?**

— Мы з сакурснікамі збіраемся ў нашым інтэрнаце. Напрыклад, у мінулым годзе мы частаваліся салодкім, слухалі музыку, хадзілі на дыскатэку. У мяне ёсць добрая сяброўка — Светка, дык мы абмяняліся падарункамі — бірулькамі. Яшчэ я падарыла Светцы соску, каб яна ўзгадала сваё дзяцінства.

**— Ты здымаеш у Мінску пакой, а што — у інтэрнаце не падабаецца?**

— Атрымаць інтэрнат даволі складана. На першым курсе мяне ім забяспечылі, а цяпер не. Таму адзінае выйсце — самому шукаць жыллё. Канечне, з нашымі стыпендыямі не надта разгонішся на кватэру. Да прыкладу, я за сваё навучанне (між іншым, за экзамены — дзве выдатныя адзнакі і адна чацвёрка) атрымліваю 625 тысяч рублёў. Каб не дапамога бацькоў, дык і не ведаю што б рабіла. Але ўмовы пражывання ў нашым інтэрнаце № 2, дзе я была на першым курсе, жахлівыя. Зімой была страшэнная халадэча. Ноччу даводзілася накрывацца некалькімі коўдрамі. Раніцай, калі прасынаешся, дык у галаве толькі адна думка, як збегаць з аднаго калідора ў жаночы ўмывальнік, які знаходзіцца ў другім калідоры.



Сшытак замест хлеба.

**— Ты спрабуеш нейк падзарабляць?**

— Пакуль не. Бо на II курсе мы досыць загружаны вучобай і вольнага часу амаль не застаецца.

**— А як з падручнікамі справы?**

— Шукаем па бібліятэках. Але часта прыходзіцца і набываць у крамах. Вельмі дарагія падручнікі па філасофіі.

**— Дык больш праблемаў, звязаных з навучаннем, няма?**

— Нядаўна наш факультэт перавялі ва Уручча. Цяпер там знаходзіцца наш корпус. Жахліва, што ад метро "Усход" даводзіцца ісці паўтара кіламетры. Толькі адна асфальтавая дарога, трэба шпацыраваць праз сад і лес. У тутэйшых мясцінах пастаянна тусуюцца бамжы. Нейк да нас прыходзіў міліцыянер і папярэджваў, каб студэнты не насілі з сабой больш за дваццаць тысячаў рублёў і ніякім чынам — залатыя вырабы, бо ёсць небяспека ўсё гэта страціць. Адным словам, на тэрыторы паміж метро "Усход" і нашым корпусам пастаянна адбываюцца ўсялякія рабаўніцтвы. Так, нядаўна невядомыя стукнулі нашу выкладчыцу матэматыкі па галаве, спіхнулі ў бруд і выхапілі з яе рук торбу. З нашага факультэта некалькі разоў гвалцілі дзяўчат. І да гэтага часу студэнтаў толькі супакойваюць — накіруем да вас конную міліцыю. А калі накіруюць — невядома.

### З падушкай на галаве

***Алена ГЕЛАХАВА — студэнтка I курса Беларускага універсітэта культуры (факультэт — акадэмічная і харавая музыка).***

**— Алена, як ты мяркуеш сустрэць Дзень студэнта?**

— Большасць нашых сакурснікаў жыве ў інтэрнаце, таму я так мяркую, што адзначаць гэтую падзею мы будзем там.

**— А на сваю стыпендыю вы можаце добра пагуляць?**

— Я пражыла чатыры гады ў Віцебску, калі вучылася ў музычнай вучэльні, і там умовы жыцця былі значна горшыя. Стыпендыя, канечне, невялікая — каля 400 тысяч рублёў. Безумоўна, без дапамогі бацькоў было б вельмі цяжка.

**— Колькі каштуе абед у вашай сталоўцы?**

— Каля 30 тысяч рублёў. Таму харчуюцца ў сталоўках нямногія нашы студэнты.

**— Ты спрабуеш нейк падзарабляць?**

— Пакуль не. Думаю, што на другім курсе варта будзе пашукаць працу.

**— Мабыць, пра набыццё інструментаў не можа быць і гаворкі?**

— Так, на гітару простыя струны каштуюць каля 90 тысячаў рублёў, а прафесійныя, для канцэртаў — каля 500 тысяч. Канцэртная гітара еўрапейскага стандарту каштуе ад 300 да 800 долараў. У кожнага музыкі павінен быць свой інструмент, але дзе ўзяць на яго сродкі?

**— А як складваюцца стасункі з выкладчыкамі?**

— Пакуль мы толькі прыглядваемся — яны да нас, мы да іх. Мы ж толькі паступілі ва універсітэт. Хаця, ужо разам сустракалі дзень нараджэння з тортамі і гарбатай.

**— Распавядзі нейкую вясёлую студэнцкую гісторыю.**

— Кожны дзень у інтэрнаце — гэта легенда. Чуваць як суседзі гуляюць — спяваюць песні да трох-чатырох гадзін ночы. Да прыкладу, над намі жывуць харэографы, яны ноччу пачынаюць танчыць. Стук стаіць страшэнны. Яны чамусьці рэпеціраваць пачынаюць пасля дванаццаці. У суседнім блоку жыве флейтыст і вакалістка, дык там ноччу пачынаюцца спевы, ігра на флейце. Праз пакой жывуць хлопцы-духавікі... Так што сон у інтэрнаце толькі з падушкай на галаве.



Студэнцкая душавая.

### ДАРОГА ЦЕНЯЎ

***Як вядома, рэдакцыя нашай газеты знаходзіцца ў адным будынку з філіялам Акадэміі мастацтваў Беларусі. Таму натуральна, што мы, супрацоўнікі "К", штодзень сутыкаемся на лесвіцах з вясёлымі маладымі людзьмі — студэнтамі. Фактычна мы працуем у студэнцкім асяроддзі.***

***Вось насустрач мне спускаюцца дзве дзяўчынкі, худзенькія, ладненькія, вочы іх трошкі стомленыя.***

**— Прабачце, вы студэнткі?**

— Так.

**— Мастачкі?**

— Так.

**— Скажыце, а Дзень студэнта вы адзначаеце?**

— Адзначаем.

**— А вы не можаце расказаць, як адзначаюць гэтае свята студэнты-мастакі?**

— Збіраюцца студэнты розных курсаў, і ладзіцца штосьці накшталт тэатралізаванай дзеі. Паказваюцца сцэнкі, праводзяцца розыгрышы. Мэта ўсёй імпрэзы — пасвячэнне першакурснікаў у студэнты.

**— Вы прыдумваеце ім жартаўлівыя выпрабаванні?**

— Так. Напрыклад, дарога ценяў.

**— Што гэта такое?**

— Нацягваюцца прасціны такім чынам, каб атрымалася штосьці падобнае на калідор. Студэнты-старшакурснікі становяцца за прасцінамі, выключаецца святло, уключаюцца ліхтары і першакурснікі павінны прайсці па калідоры. Пакуль яны ідуць, старшакурснікі палохаюць іх страхотнымі ценямі, жартаўліва штурхаюць. Гэта сімвалізуе пачатак іх шляху па жыцці, а жыццёвы шлях, вядома, цярністы і цяністы. Бывае, што першакурснікам прыдумваюць новыя імёны, іх размалёўваюць фарбамі...

**— Фарбамі!.. А дзе бедныя студэнты зараз бяруць дэфіцытныя фарбы?**

— Мама грошы дае (смяюцца). А ўвогуле хтосьці можа і карціну прадаць, і дзесьці штосьці для кагосьці намаляваць, выканаць пэўную замову.

**— Увогуле жыць сёння цяжка студэнтам?**

— Гледзячы як разумець. Калі няма грошай, гэта яшчэ не значыць жыць цяжка.

**— Тады што такое цяжкае студэнцкае жыццё?**

— Пастаянная дэпрэсія *(смяюцца)*.

**— А яна ад чаго залежыць?**

— Ад самога чалавека. І ад натхнення. .

**— Што вы можаце пажадаць студэнтам на іх дзень?**

— Натхнення *(зноў смяюцца)*. І яшчэ, каб не чакалі, што іх будуць чаму-небудзь вучыць. Каб вучыліся самі.

На маё апошняе пытанне, як іх завуць, яны сціпла сказалі:"Каця" і "Оля". Вось так, без прозвішча, курса, нумара групы... хатняга тэлефончыка...

Таму адзначаем іх асаблівыя прыкметы: адна прыгожая брунэтка; другая таксама прыгожая, але бландзінка.

**Сустракаліся са студэнтамі Зміцер ВОЛКАЎ і Серж МІНСКЕВІЧ, а здымаў Генадзь ЖЫНКОЎ**

# ЛІРЫЧНЫЯ НАВЕЛЫ МАРЧАНКІ

Наведайце выставу Леаніда Марчанкі, якая адкрыецца 14 лістапада ў Нацыянальным мастацкім музеі, угледзьцеся ў сярэбраныя ажурныя афорты і мяккія задумлівыя акварэлі, і вы доўга яшчэ будзеце ўзгадваць цішыню вытканых восенню палян, казачна чыстае неба колеру бабінага лета, ранішнія туманы над азёрамі, жывыя вобразы суровага палярнага круга. І шмат чаго яшчэ...

Усе паэты пішуць пра каханне. Таленавітыя — заўсёды па-свойму: вечныя тэмы робіцца ў іх цалкам асабістымі. Творы Марчанкі — лірычныя навелы. У спрадвечных супярэчнасцях часоў мастак шукаў у першую чаргу гарманічныя акорды і часта іх знаходзіў.



Л.Марчанка. "Стары млын". З цыкла "Вёска Манькавічы". Афорт.



Л.Марчанка. "Півоні". Папера, акварэль.

Угледзьцеся больш уважліва ў ягоную графіку, і вы ўладна адчуеце асаблівасці паэтычнага даравання Марчанкі. Ён просты, чулы, далёкі ад надзьмутасці. Ён радасна прымае і белую цішыню беларускага зімовага лесу, і старажытную экзотыку спякотнай Туркменіі, і салодкі спакой Нарачы і Чаросава, і панараму роднага Мінска з вышыні птушынага палёту, і манументальныя рытмы Поўначы.

У шырокай плыні сучаснай графікі Леанід Марчанка займае сваё, вызначанае месца. Ён не капіраваў нікога. Ягоныя творы адлюстроўваюць самастойнае, "марчанкавае" ўспрыняцце свету і пры ўсёй разнастайнасці маюць лёгка бачную агульную эмацыйную танальнасць, стылёвую пэўнасць.

Праз усю ягоную творчасць праходзіць адна, галоўная тэма — паказаць гармонію чалавека і асяроддзя, дзе ён існуе. І гэтую гармонію мастак знаходзіў, паводле словаў Георгія Паплаўскага, "у паэзіі, пяшчоце і эстэтычнай выразнасці графікі".

Больш за год мінула з таго дня, як пайшоў ад нас Леанід Марчанка. Мастак пайшоў... Але ягоная творчасць засталася. Людзям... Назаўжды...

**Б.К.**

# І ЗНОЎ "ЛІСТАПАД"!

З 22 па 29 лістапада ў Мінску адбудзецца чарговы фестываль краін СНД і Балтыі "Лістапад-97": конкурсныя паказы мастацкіх фільмаў будуць наладжаны ў кінатэатры "Кастрычнік", пазаконкурсныя паказы і іншыя кінаакцыі — у кінатэатрах "Перамога", "Масква" і "Мір", творчыя сустрэчы з аўтарамі карцін і акцёрамі, акрамя кінатэатраў, будуць праводзіцца на прадпрыемствах і ў вышэйшых навучальных установах горада.

Арганізатары кінафоруму — Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь, Мінгарвыканкам, Беларускі Саюз кінематаграфістаў, акцыянернае таварыства "Кінацэнтр" з Масквы, Канфедэрацыя Саюзаў кінематаграфістаў. Генеральны прадзюсер у асобе фестывальнай дырэкцыі Беларускага Саюза кінематаграфістаў сумесна са спонсарамі фестывалю праводзяць гэтае кінасвята з мэтай азнаямлення з лепшымі кінастужкамі, створанымі кінематаграфістамі краін СНД і Балтыі за апошнія два гады.

Зазвычай, гэтыя карціны, ужо адзначаныя на розных міжнародных кінафестывалях, атрымалі высокую адзнаку крытыкі.

На кінафестывалі плануецца паказаць такія фільмы, як "Вяртанне бронецягніка" Генадзя Полака, "Царэвіч Аляксей" Віталя Мельнікава, "Злодзей" Паўла Чухрая, "Брат" Аляксея Балабанава, "Час танцора" Вадзіма Абдрашытава, "Бег ад смерці" Віктара Дзяругіна, "Прыяцель нябожчыка" Вячаслава Крыштафовіча, "Прынцэса на бабах" Вілена Новака, "Шызафрэнія" Віктара Сяргеева, "Крызіс сярэдняга ўзросту" Гарыка Сукачова, "Каралі з воўчых зубоў" Альгімантаса Пуйпа і іншыя.

Чакаецца прыезд гасцей і ўдзельнікаў фестывалю — вядомых кінематаграфістаў Яўгена Мацвеева, Алега Янкоўскага, Сяргея Салаўёва, Кірылы Лаўрова, Аляксея Булдакова, Генадзя Полака, Монікі Бічунайтэ і іншых.

Фестывальныя фільмы будуць ацэньвацца трыма журы. Галоўны прыз — прыз глядацкіх сімпатый — прысуджае глядацкае журы. Прызы за лепшую рэжысуру і за лепшую акцёрскую працу прысуджаюць адпаведна журы кінематаграфістаў і журы кінапрэсы. Натуральна, будуць уручаны і спецыяльныя прызы, заснаваныя рознымі ўстановамі і арганізацыямі.

Такім чынам, запрашаем усіх, хто любіць кіно, 22 лістапада а 17-й гадзіне ў кінатэатр "Кастрычнік" на цырымонію адкрыцця "Лістапада-97"!

**Наш кар.**

# СВЯТА ДЛЯ МЕЛАМАНАЎ

20 лістапада адкрываецца фестываль "Беларуская музычная восень", які ўжо зрабіўся папулярным сярод мінскіх меламанаў. У гэты вечар у зале Белдзяржфілармоніі прагучыць адзін з самых яскравых шэдэўраў сусветнай музычнай скарбніцы — Дзявятая сімфонія Людвіга ван Бетховена. Выканаўцы — сімфанічны аркестр і хор Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі. У якасці салістаў выступяць выпускнікі гэтай навучальнай установы — Тацццяна Пятрова, Тацццяна Варапай, Рыгор Палішчук і Алег Гардынец. За дырыжорскім пультам — рэктар Акадэміі, прафесар Міхаіл Казінец.

Маладым музыкантам нездарма зроблены гонар адкрыць такі прэстыжны фестываль. Сімфанічны аркестр "Маладая Беларусь" ужо заваяваў аўтарытэт не толькі ў нашай краіне, але і за яе межамі. Ён гастраляваў у Італіі, Францыі, Германіі. Спецыяльна для яго ў Францыі быў наладжаны фестываль "Лета вялікага саду", падчас якога нашы юнакі і дзяўчаты выступалі ў дваццаці дзевяці гарадах і запісалі лазерны дыск.

У жніўні мінулага года музыканты наведалі нямецкі горад Байрэт, дзе ўзялі ўдзел у 47-м Міжнародным маладзёжным фестывалі, які праходзіў у рамках фестывалю імя Вагнера. У свеце існуюць два найбольш прэстыжныя музычныя святы — Моцартаўскае ў Аўстрыі, у Зальцбургу, і Вагнераўскае ў Германіі, у Байрэце. Аркестр "Маладая Беларусь" упершыню прадставіў нашу краіну на падобным фестывалі. Тут калектыў не толькі даў некалькі сольных канцэртаў і выканаў разнастайную праграму, уключаючы Канцэрт для дзвюх скрыпак І.С.Баха, "Струнную серэнаду" П.Чайкоўскага, "Канцэрціна-барока" беларускага кампазітара Літвіноўскага. Артыстам, якія ўваходзяць у склад струннай групы аркестра, пашчасціла ўдзельнічаць у Еўрапейскім маладзёжным аркестры, якім кіраваў вядомы нямецкі дырыжор М.Піёле. Гэты зводны аркестр, куды адбіраюцца лепшыя музыканты з усяго свету, выканаў уверцюру Мендэльсона "Гібрыды", Канцэрт для скрыпкі з аркестрам І.Брамса і "Вясну свяшчэнную" І.Стравінскага.

Майстэрства хору Беларускай акадэміі музыкі (мастацкі кіраўнік і хормайстар прафесар Віктар Роўда) сёлета таксама было адзначана найвышэйшымі ўзнагародамі на прэстыжных харавых конкурсах. Так, на ІІ Міжнародным конкурсе хароў у нямецкім горадзе Дармштаце гэты калектыў атрымаў два прызы за ўдзел у катэгорыях змешаных хароў і хароў духоўнай музыкі. Акрамя гэтага, ён быў узнагароджаны "Оскарам" як абсалютны пераможца ва ўсіх катэгорыях.

У горадзе Ганаўцы (Польшча) ў конкурсе духоўнай музыкі гэты хор з Беларусі таксама атрымаў найвышэйшую ўзнагароду — Гран-пры.

Прэзентуючы спевакоў, якія будуць выконваць чацвёртую частку Дзявятай сімфоніі Бетховена, хочацца адзначыць, што яны — уладальнікі яскравых і сакавітых па тэмбры галасоў і, нягледзячы на сваю маладосць, ужо даволі вопытныя выканаўцы. Так, Таццяна Пятрова — асістэнт-стажор Акадэміі музыкі і салістка хору "Санорус", Таццяна Варапай, Рыгор Палішчук і Алег Гардынец — салісты Дзяржаўнага акадэмічнага тэатра оперы Рэспублікі Беларусь.

**Элеанора СКУРАТАВА**

# ЮБІЛЯР ЗАПРАШАЕ...

Нацыянальны музей гісторыі і культуры Беларусі нядаўна адсвяткаваў свой юбілей. 30 гадоў таму, 2 лістапада 1967 года, у доме на вуліцы Карла Маркса, 12 адкрылася першая экспазіцыя Дзяржаўнага музея БССР — так тады называўся гэты музей.

Да гэтай гадавіны і былі прымеркаваны дзве новыя цікавыя экспазіцыі. Адна з іх — "Яны ствaралі музей" — распавядае пра гісторыю няпростага станаўлення і развіцця гэтага музея. Другая — "100 рарытэтаў" — унікальная. Тут прадстаўлены рэдкія фондавыя экспанаты, якія раней былі недаступныя для шырокага кола наведнікаў. Гэта і слаўны Мінскі скарб з 547 прадметаў, выкананых з каштоўных металаў, які быў схаваны яшчэ падчас першай сусветнай вайны і знойдзены толькі ў 1988 годзе; гэта і старажытныя музычныя інструменты, сярод якіх скрыпка майстра Маджыні, зробленая напрыканцы XVI стагоддзя; гэта і рэдкія кнігі і рукапісы, манеты, заходнееўрапейская парцэляна, беларускія абразы і шмат што яшчэ.

Выстава будзе дзейнічаць да сярэдзіны снежня 1997 года.

**Наш кар.**

# КОЛЬКІ СЛОЎ З НАГОДЫ...



Калі вы ўважліва сачылі за публікацыямі, звязанымі з культурай, то не маглі не заўважыць прозвішчы аўтараў, што асвятляюць праблемы тэатра, выяўленчага і дэкаратыўнага мастацтва. Большасць з іх выпускнікі і выкладчыкі кафедры гісторыі і тэорыі мастацтваў Беларускай Акадэміі мастацтваў, якой сёлета ў кастрычніку споўнілася 35 гадоў.

Увесь гэты час кафедра не пераставала быць генератарам інтэлектуальных ідэй, штабам усебаковай інфармацыі для маладзёжнага творчага асяроддзя. Поспех нашай сучаснай беларускай культуры — гэта і поспех кафедры. Яна не толькі дапамагала рыхтаваць практыкаў мастацтва, але выпускала з дзесяцігоддзя ў дзесяцігоддзе сваіх тэатразнаўцаў і мастацтвазнаўцаў, аспірантаў і асістэнтаў-стажораў. Карацей, трэба аддаць належнае гэтаму калектыву, без якога наша культура не мела б шмат з таго, што сёння выяўляе яе ўзровень.

На працягу існавання кафедры ёю загадвалі вядомыя ў рэспубліцы мастацтвазнаўцы, тэатразнаўцы, літаратуразнаўцы. Сярод іх С.І.Карабан (у 1953 — 1956), М.С.Кацар (1956 — 1958), П.П.Нікіфараў (1958 — 1967), Н.П.Федзюкова (1967 — 1972), А.В.Сабалеўскі (1972 — 1989). З 1989 г. па верасень 1997 г. кафедру ўзначальваў вядомы этнограф і мастак прафесар М.Ф.Раманюк...

І сёння на кафедры працуюць выдатныя навукоўцы: Э.Герасімовіч, Э.Петэрсон, Т.Ратабыльская, М.Баразна, Я.Шунейка і інш.

Спадзяемся, што і надалей кафедра гісторыі і тэорыі мастацтваў застанецца "кузняй" інтэлектуалаў, якія яшчэ шмат папрацуюць на карысць нашай Бацькаўшчыны.

**Наш кар.**

# КРЫМІНАЛЬНЫЯ РЫЦАРЫ

"Пазаштатная ахова "праспала" музей", — такім чынам каментуюць некаторыя супрацоўнікі міліцыі віцебскае здарэнне.

...У рамках "Славянскага базару-97" у Музеі прыватных калекцый адкрылася выстава "Халодная зброя народаў свету", што складаецца з 46 экспанатаў XVIII — XX стагоддзяў. Экспазіцыю вылучаў асаблівы густ і стыль, уласцівы яе аўтару, мастаку-рэстаўратару Віцебскага краязнаўчага музея Алегу Сядлоўскаму.

Надвячоркам 21 кастрычніка з Музея прыватных калекцый невядомыя асобы скралі шэсць экспанатаў з вышэйпамянёнай выставы: тры шпагі, дзве шаблі і паляўнічы нож. Злачынцы добра прадумалі свае дзеянні з улікам асаблівасцяў псіхалогіі: у той фатальны вечар некальки разоў без дай прычыны спрацоўвала сігналізацыя, што паменшыла пільнасць ахоўнікаў. Акрамя гэтага, былі зроблены практычныя дзеянні: месцы свайго знаходжання злодзеі апрацавалі нафтапрадуктамі (гэта нейтралізавала сабак, якія не здолелі ўзяць след), на шляху свайго адыходу яны нацягнулі дрот. Карацей, дзейнічалі прафесійна, не пакінуўшы доказаў і адбіткаў пальцаў.

Раніцай выстава "Халодная зброя народаў свету" прыпыніла сваё існаванне, а сорак яе экспанатаў былі вернуты ў адпаведныя фонды. Эксперты музея ацанілі скрадзеную зброю, назваўшы яе кошт у валюце. Але ж лічбы, што з'явіліся на старонках мясцовага і рэспубліканскага друку недакладныя. З прычыны незавершанасці вышуку па справе інфармацыя пра кошт скрадзеных прадметаў з'явяецца канфідэнцыйнай.

Відавочна, што злачынства было замоўленым — узята зброя з пэўнай вітрыны. Застаецца дадаць, што ў залах Музея прыватных калекцый экспанаваліся таксама больш рэдкія і каштоўныя рэчы. Іх не кранулі. На шчасце.

**Эла ДРУЖКОВА**

*Віцебск*






Жанна ВАСАНСКАЯ
Віктар ЗАЙКОЎСКІ (фота)

Безумоўна, кінафестывалі — падзеі, калі і не заўсёды дзяржаўнага ўзроўню, дык, прынамсі, абавязкова святочныя і для ўдзельнікаў, і для гледачоў. Дзякуючы адлізе перабудовы мы ведаем, што ў свеце існуе столькі кінафорумаў, колькі на "Беларусьфільме" створана стужак пра партызан. І я не жартую: і тых, і другіх — каля сотні. Сёння гледачы добра арыентуюцца ў намінацыях, прызах і гучных імёнах. Асабліва падабаюцца і набываюцца карціны "пірацкай" вытворчасці з міжнародных фестываляў. Толькі вось папулярнасць айчыннага кіно сярод гледачоў чамусьці не турбуе камерсантаў з кінарынкаў і з відэасалонаў — справа ж зусім не прыбытковая. Здавалася б, і кіно існуе, і незалежныя студыі на Беларусі нараджаюцца, а так званых "касавых" ды і элітарных стужак няма. Напрыклад, міжнародны Маскоўскі кінафестываль хоць і працягвае штогод весяліць свет ці то праграмай, ці то арганізацыйнымі выкшталцонасцямі; але ж расійскае кіно нене, ды і ўсплыве на ўзбярэжжы якога-небудзь замежнага фестывалю.

А што ж на сёння маюць прафесіяналы і гледачы на Беларусі? Падлічу:


Уладзімір Гасцюхін на сустрэчы з гледачамі стужкі "Батанічны сад".

1. Міжнародны кінафэст "Жаночае кіно". Хоць гэта і не дзяржаўная, а хутчэй феміністкая акцыя, але ж яна ўпэўнена набірае моц, і я, як сведка шматлікіх конкурсаў, падкрэсліваю, што гэты — мінскі — форум зрабіўся прэстыжным у кінематаграфічным свеце.

2. Улюбёнец кінатэатра "Кастрычнік" "Лістапад" для "профі" не мае ніякай каштоўнасці. Ігравое кіно за чатыры гады да пачатку новага тысячагоддзя даўно заваявала беларускага гледача, так бы мовіць, імпартнымі арыенцірамі: Сталоне, Панкратаў-Чорны і, мабыць, бясконцы серыял Яўгена Мацвеева "Любіць па-руску — №№...".

3. Міжнародны кінарынак нарадзіўся сёлета з пэўнай перспектывай калі-небудзь перамагчы ў намінацыі "Поўны Дэградэнс". Гэта пакідаю без каментару.

4. Урэшце, у кастрычніку адбыўся І Нацыянальны фестываль беларускіх фільмаў у Брэсце. Пагадзіцеся, падзея гэтая дзяржаўная і ўрачыстая. Толькі што ж мы маем і бачым? Маем прызы-ўзнагароды, якія ўсё ж не ў стане палепшыць гаротнае жыццё кінематаграфістаў. Дыпломы не з'яўляюцца сертыфікатам якасці ці ўзлётнай пляцоўкай для далейшага творчага поспеху за


Маскоўскі акцёр Дзмітрый Шчарбіна.


Размова перад сеансам старшыні журы Уладзіміра Мяньшова і члена журы Ігара Волчака.

ЛЯ ФАНТАНА

**Лаўрэаты І Нацыянальнага фестывалю беларускіх фільмаў:**
лепшая жаночая роля —
Таццяна Кавалеўская, "Птушкі без гнёздаў";
лепшая мужчынская роля —
Мікалай Яроменка-старэйшы, "Сын за бацьку";
лепшы фільм —
"Сын за бацьку", рэжысёр Мікалай Яроменка-малодшы;
лепшы анімацыйны фільм —
"Жыло-было дрэва", рэжысёр Уладзімір Пяткевіч;
лепшы дакументальны фільм —
"На кожны гук ёсць рэха на Зямлі", рэжысёр Міхаіл Жданоўскі.

**Прызёры фестывалю:**
Віктар Капыцька — кампазітар,
Мікалай Калашнікаў — аператар,
Алена Турава — рэжысёр анімацыйнага кіно,
Ірына Кадзюкова — рэжысёр анімацыйнага кіно,
Сяргей Лук'янчыкаў — рэжысёр дакументальнага кіно,
Юрый Лысятаў — рэжысёр дакументальнага кіно,
Аляксандр Колбышаў — рэжысёр дакументальнага кіно,
Міхась Пташук — рэжысёр ігравога кіно,
Валерый Рубінчык — рэжысёр ігравога кіно.


Прыз І Нацыянальнага фестывалю беларускіх фільмаў.


Яўген Мацвееў з групай беларускіх акцёраў фільма "Любіць па-руску — 2".

# "СЫН ЗА БАЦЬКУ", БАБКА — ЗА ДЗЕДКУ, ДЗЕДКА — ЗА РЭПКУ...

межамі Бацькаўшчыны. Для чытачоў "К" — аматараў кіно — я спецыяльна падрыхтавала спіс лаўрэатаў І Нацыянальнага як, спадзяюся, будучую рэліквію.

Наколькі мне вядома, на прыстойных конкурсах і публіка, і крытыка, і ўдзельнікі з хваляваннем чакаюць своеасаблівага "маніфеста" ад журы: канкрэтных імёнаў пераможцаў у тэматычных намінацыях. Часцей за ўсё, прысуд журы супадае з настроем публікі і густамі незалежнага прэс-цэнтра. У Брэсце, аднак, журналісты, як ніколі, адчулі дыскрымінацыю. У іх не толькі не было прэс-цэнтра фестывалю , яны нават жылі асоб-


Рэжысёр і аператар Юрый Марухін.

на, далёка ад удзельнікаў форуму. Магчыма, каб не сурочылі. З гэтай "рэзервацыі" кожную раніцу іх адвозілі на прагляд стужак ці на знянацку абвешчаную прэс-канферэнцыю на тэму "Кінапракат сёння". Прабачце, але нас усіх — крытыкаў і журналістаў, было ўсяго шэсць (!) чалавек. А выданняў, акрэдытаваных на фестывалі —толькі два.

Дык што, І Нацыянальны фестываль не варты асвятлення ў СМІ? Крычаць трэба на ўвесь свет пра гэтую эксклюзіўную падзею! Ды і гледачы, нарэшце, павінны ведаць сваіх герояў у твар! Чаму я не вяду размову пра новыя накірункі і тэндэнцыі ў беларускім кінематографе — дык няма ж пра што казаць! Папершае, фільмы для крытыкаў і аматараў беларускага кіно далёка не новыя. Па-другое, ніводная стужка не рыхтавалася спецыяльна для гэтага творчага спаборніцтва. Здаецца, знялі з паліц скрыні са стужкамі, запрасілі ў залу журы — вось табе і ўсё кіно... Не было і класіфікацыі конкурснай праграмы: не створана асобнае журы на ігравое, дакументальнае, анімацыйнае кіно. Пра знакаміты "багемны бляск", эстэтыку "зорнага кінафоруму" — і казаць не даводзіцца. А тыя шэсць крытыкаў і журналістаў не ў стане былі зрабіць " зорны ажыятаж".

Затое "шоу"-прывітанне, якое прымусілі разыгрываць напаўраспрануытых у халадэчу на вуліцы дзяцей падчас адкрыцця фэсту, нагадвала карэйскія святы часоў "бацькі Кім Ір Сена". З гэтай нагоды прыходзяць на ўспамін вераснёўскія падзеі на знакамітым кінафестывалі ў Венецыі. Прадстаўнікі mass-media ўручылі прыз хлопчыку Міхасю Філіпчуку за лепшае выкананне дзіцячай ролі ў стужцы Паўла Чухрая "Злодзей". Італьянцы за некалькі гадзін зарыентаваліся і знайшлі майстра, які зрабіў яшчэ і дадатковы афіцыйны дыплом. Вось яна, сапраўдная дэмакратыя ў мастацтве! Запытаецеся, чаму я параўноўваю еўрапейскія кінападзеі з айчыннымі? Адказваю: не на аблоках жа жывем! Гэта толькі неразумны не ўлічвае вопыт іншых.

Наспеў час вызначыцца: альбо прытрымлівацца еўрапейскіх стандартаў у наладжванні кінашоу, альбо вынайсці што-небудзь сваё, "хатняе". Аднак, здаецца, мы і дасюль карыстаемся інструкцыяй па арганізацыі масавых святаў часоў пралеткульта. І пабліцыі некаторым стужкам нагадваюць часам старажытную казку: бабка — за дзедку, дзедка — за рэпку...

**P.S.** Лішне нагадваць арганізатарам Нацыянальнага кінафэсту пра ролю айчынных журналістаў, для якіх падобныя мерапрыемствы не што іншае, як праца. Спадзяюся, што "бацькі" "Лістапада" прыслухаюцца да прапаноў і маіх калег.

РЭПЛІКА

## ВІНШУЕМ ЛЯЛЕК І ІХ БАЦЬКОЎ!

Беларускі цэнтр УНІМА, які аб'ядноўвае ўсіх аматараў і прафесіяналаў мастацтва тэатра лялек у краіне, нарэшце атрымаў пасведчанне за №0864. У Міністэрстве юстыцыі Рэспублікі Беларусь зарэгістраваны Статут яшчэ адной грамадскай арганізацыі — Беларускі цэнтр Міжнароднага саюза дзеячаў тэатра лялек.

Каманда "К" жадае абранаму прэзідэнту — дырэктару Брэсцкага тэатра лялек Міхасю Шавелю плённай працы ў свеце лялек і казачнага здароўя.

Адрас Беларускага цэнтра УНІМА: г.Брэст, вул.Леніна, 56. Тэлефон: (0162) 26-33-59.

Зоя ЛЫСЕНКА
Віктар СТРАЛКОЎСКІ (фота)

# БЫЛІ КАРАЛЕЎСКІЯ РОЛІ



*Тэатр музычнай камедыі працягвае добрую традыцыю па ўшанаванні сваіх вядучых салістаў. У гэтым сезоне віншаванні ў сувязі з 25-годдзем сцэнічнай дзейнасці прымае Валянціна ПЯТЛІЦКАЯ.*

Гэтую артыстку прыхільнікі тэатра ведаюць і па класічным, і па сучасным рэпертуары. Кожная салістка, якая выступае ў амплуа гераіні, мае свае адметныя творчыя рысы: у адной больш праяўляецца нястрымлівая энергія і іскрамётная весялосць, у другой — лірычнасць ці драматызм, а трэцяя можа спалучаць у сабе самыя процілеглыя рысы. Самыя адметныя рысы Валянціны Пятліцкай — пранікнёная лірычнасць і шчырая задушэўнасць, а ў ролях драматычнага плану — псіхалагічная дакладнасць вобраза. Гэтымі рысамі і вылучаецца Валянціна Пятліцкая сярод іншых салістак тэатра, за гэта і любяць артыстку яе пастаянныя прыхільнікі.

Яшчэ будучы студэнткай Белдзяржкансерваторыі, Валянціна Пятліцкая была запрошана ў стажорскую групу тэатра, а пасля заканчэння вучобы стала яго салісткай. Спачатку былі ўводы ў рэпертуар, у асноўным — у класічныя аперэты, а потым надышоў час першай пастаноўкі. Гэта была музычная камедыя Б.Аляксандрава "Вяселле ў Малінаўцы" ў пастаноўцы А.Барсегяна. Роля Ярынкі была першай вялікай творчай удачай Пятліцкай. Потым была яшчэ адна ўдалая роля — Насці ў музычнай камедыі Р.Суруса "Несцерка".

Як і ў кожнай артысткі, сярод мноства роляў заўсёды выдзяляюцца найбольш значныя, ці этапныя. Сярод іх можна назваць таксама ролю Соф'і ў музычнай камедыі "Гора ад розуму" А.Фельцера. Гэты спектакль ставіў Р.Віцюк, таму можна ўявіць сабе ўзровень пастаноўкі і ступень патрабавальнасці да выканаўцаў. Спектакль ставіўся ў першай палове 80-х гадоў — і да гэтага часу ўсе ў тэатры ўзгадваюць яго з настальгіяй. У гэтыя ж гады быў пастаўлены і мюзікл В.Лебедзева "О, мілы друг" (рэжысёр — К.Каўфман), дзе Пятліцкая выканала ролю Клацільды. Акурат у гэтай пастаноўцы яна з асаблівай сілай выявіла псіхалагізм сваіх персанажаў, які быў закладзены ў драматургіі абодвух спектакляў. Якраз тут яна здолела спалучыць свой прафесіяналізм вакалісткі з выяўленнем драматургічнага боку гэтых роляў, чаму, дарэчы, у кансерваторыі не вучаць. Адсюль вынікае яшчэ адна рыса В.Пятліцкай як артысткі — пастаяннае ўдасканаленне свайго прафесіяналізму. Яна ўвесь час уласнымі намаганнямі стараецца кампенсаваць недахоп тых чыста акцёрскіх навыкаў, якіх, на жаль, кансерваторыя не дае. І гэта ёй удаецца, можа, нават у большай ступені, чым іншым салісткам тэатра.

І яшчэ практычна ніводнага артыста, нават вядучага, не мінае такая з'ява, як творчы застой, калі з розных прычын, аб'ектыўных і суб'ектыўных, артыст на працягу пэўнага часу застаецца незапатрабаваным. Не мінуў такі лёс і Валянціну Пятліцкую. Прыкладна ў сярэдзіне свайго творчага шляху на працягу 2 — 3 гадоў яна была ў тэатры амаль не запатрабавана. Зазвычай такую сітуацыю артысты перажываюць вельмі балюча. Перыяд сваёй творчай незапатрабаванасці Пятліцкая перажыла надзіва спакойна: дапамагала яе прыродная разважлівасць. Таму з перыяду вымушанага застою яна выйшла без маральных страт і з запасам творчай энергіі.

У перыяд, калі галоўным рэжысёрам у тэатры быў В.Цюпа, В.Пятліцкая ўдзельнічала толькі ў адным спектаклі — "Сірано" С.Пажлакова, у якім выконвала надзвычай драматычную ролю Раксаны. Як вядома, з імем гэтага рэжысёра звязаны цэлы творчы перыяд у гісторыі тэатра. І цяпер, калі з той пары прайшло не менш як дзесяць гадоў, Валянціна Пятліцкая добра бачыць неаспрэчныя рысы таленту гэтага рэжысёра. Шкада, што кампрамісу ў тэатры тады так і не адбылося і мы больш не пабачым іскрамётных і ў нечым экстравагантных спектакляў Цюпы, у якіх кожны акцёр выкладваўся на поўную сілу. А ці не гэта і ёсць самае галоўнае для артыста?

На пачатку 90-х гадоў у тэатры быў пастаўлены мюзікл А.Журбіна "Біндзюжнік і кароль" (рэжысёр М.Гусеў). Гэты цудоўны па музыцы твор, які надзвычай любіў сам Журбін, на жаль, не знайшоў на нашай сцэне свайго годнага рэжысёрскага ўвасаблення. Спектакль "выцягвалі" толькі акцёры, і сярод іх — В.Пятліцкая ў ролі Марусі. Гледачы проста ажывалі, калі яна з'яўлялася на сцэне, — прыгожая, лёгкая, нават нейкая ўзнёслая і нечакана чыстая ў ролі прадажнай дзеўкі. Артыстка падкрэслівала ў ёй не самыя заганныя, а наадварот, самыя прывабныя рысы маладой прыгажуні.

Апошнія 5 — 6 гадоў артыстка зноў знаходзіцца на творчым уздыме. У 1992 г. быў пастаўлены спектакль "Дзіцячы альбом" на музыку П.Чайкоўскага. Гэту выдатную пастаноўку ажыццявіў вядомы рэжысёр з Санкт-Пецярбурга А.Пятроў. В.Пятліцкая выконвала ў спектаклі ролю Маці, поўную драматызму і рамантычнай узнёсласці. У гэтым спектаклі артыстка яшчэ раз прадэманстравала свой драматычны талент.

І без перабольшвання — каралеўская роля ў Валянціны Пятліцкай у мюзікле У.Кандрусевіча "Шклянка вады" (рэжысёр Б.Утораў). Гэты спектакль, пастаўлены ў 1994 годзе, з'яўляецца на гэты час адным з лепшых у тэатры. Артыстка выконвае ў ім ролю каралевы Анны. У гэтай ролі яна спалучыла самыя моцныя бакі сваёй творчасці — цудоўны вакал і тонкую акцёрскую ігру. Як каралева — Анна вельмі жаноцкая і трапяткая, наіўна-адкрытая і няшчасная адначасова. Пятліцкая вельмі арганічная і непасрэдная ў гэтай ролі, і нават шыкоўныя каралеўскія ўборы не могуць засланіць сваім бляскам адкрытай душы яе гераіні. Менавіта гэты спектакль і быў выбраны для ўрачыстага вечара 14 лістапада, на якім калегі і ўдзячныя гледачы віншавалі В.Пятліцкую з 25-годдзем яе сцэнічнай дзейнасці.

Але "Шклянка вады" — не апошні спектакль з удзелам В.Пятліцкай. У мінулым сезоне адбылася прэм'ера аперэты О.Штрауса "Капляюш Напалеона" ў пастаноўцы Б.Лагоды, у якой В.Пятліцкая выконвае галоўную ролю Тэрэзіны. А неўзабаве павінна з'явіцца новая пастаноўка Б.Уторава, і В.Пятліцкая таксама будзе занята ў ёй.

Акрамя таго, Валянціна Сяргееўна займаецца выкладчыцкай дзейнасцю — выкладае вакал у СШ № 170 з эстэтычным ухілам і ў Акадэміі мастацтваў, дзе на эксперыментальным курсе рыхтуюць артыстаў музкамедыі.

Пажадаем жа артыстцы далейшых творчых поспехаў — каб яе талент быў заўсёды запатрабаваны на радасць усім прыхільнікам гэтага жанру.

Акваторы-я!

# "СТАРЭЙШАЯ СЯСТРА" І "СТАРАЯ АКТРЫСА..." КАРАЦЕЙ, ТАЦЦЯНА ДАРОНІНА НА МІНСКАЙ СЦЭНЕ

Марфа БЛАГАДАНСКАЯ

Восень дыктуе свае ўмовы: цёплы пакой, гарачая гарбата, кепскае надвор'е... Але толькі не для мінчукоў-тэатралаў, якія традыцыйна шукаюць лішняга квітка на гастрольныя спектаклі ў пераходах метро. Скажаце, правінцыялы заўсёды мараць трапіць на сустрэчу з маскоўскім ці з пецярбургскім акцёрам? Не, сябры, тыя часы адышлі ў нябыт, і сённяшні мінскі глядач ведае той "саўковы" тэатральны ажыятаж толькі па расказах бацькоў дый дзядоў. У глядацкай зале падчас спектакляў "МХАТа" пад кіраўніцтвам народнай артысткі СССР Таццяны Даронінай сядзелі ў асноўным маладыя мінчукі, якія ніколі не павязвалі піянерскія гальштукі... Спадзяюся, што расійскіх акцёраў цёплы прыём беларусаў уразіў і прыемна здзівіў, бо на роднай сцэне "мхатаўцам" няўдачы не даруюць... (Летась бачыла на свае вочы.)

На маю думку, тэатральныя скандалы спрыяюць папулярнасці акцёраў сярод гледачоў. Амаль сем гадоў таму пачаліся творчыя "разборкі" паміж лідэрам "Современника" Алегам Яфрэмавым і былой зоркай пецярбургскага БДТ Таццянай Даронінай. Фіналу чакалі: ад міністра культуры да аматара тэатральнага мастацтва. Прычым ніхто нават з журналістаў не асмеліўся карэкціраваць дзеянні заслужаных і таленавітых людзей. Толькі адна з расійскіх газет падала драму "МХАТа" ў выглядзе калажа: кадр з фільма "Тры таполі на Плюшчысе", дзе Таццяну Дароніну і Алега Яфрэмава ў салоне таксі "раз'ядноўвае" маланка. Урэшце, у Маскве стварылася два тэатры з адным чэхаўскім сімвалам — чайка на заслоне... Праз некалькі гадоў крытыкі з творчым энтузіязмам абмяркавалі рэжысёрскія працы прыгожай Жанчыны і станоўчага Мужчыны... Здаецца, "акадэмістам", якія пайшлі за Алегам Мікалаевічам, кампліментаў дасталося болей, калі верыць маскоўскай прэсе.

І вось гастролі ў Мінску. Геніяльнага драматурга Міхаіла Булгакава рэжысёр Дароніна таленавіта "заваліла". Ну не атрымалася сцэнічнае палатно перыяду 1918 — 1919 гадоў, калі Кіеў разрываўся паміж германцамі і пятлюраўцамі. Асабіста мне пастаноўка нагадала курсавую работу тэатральнага факультэта, дзе ролі аддадзены супрацоўнікам кафедры імя сістэмы Станіслаўскага. Увесь вечар хацелася гэтай вялікай трупе крыкнуць з залы: "Не веру!" Але ж надта паважаю гаспадароў вялікага дома Турбіных, таму нястрыманасць сваю давялося прышпіліць да крэсла да канца першай дзеі.

А вось п'еса знакамітага Эдварда Радзінскага "Старая актрыса на ролю жонкі Дастаеўскага" — святочны падарунак! А калі фактуру ажыццявіў такі супярэчлівы рэжысёр, як Раман Віцюк, дык, увогуле — ніц перад Ягонай Вялікасцю Тэатрам. Выканаўцы галоўных роляў Таццяна Дароніна і Арыстарх Ліванаў маглі б і не выходзіць на сцэну, а проста чытаць разумны тэкст п'есы за кулісамі.

Брава Радзінскаму, які стварыў інтэлектуальную драматургію на высокамастацкіх арыгіналах генія Дастаеўскага. Знакамітая, "фірмовая" іронія аўтара п'есы, здаецца, перадалася і выканаўцам галоўных роляў. У дыялогах персанажаў было даволі гумару і самаіроніі, прычым гістарычны матэрыял засноўваўся на асабістай перапісцы — лістах Фёдара Міхайлавіча і ягонай жонкі. Трэба адзначыць, што п'еса "Старая актрыса на ролю жонкі Дастаеўскага" была напісана спецыяльна для Таццяны Даронінай. На мове крытыкаў гэта значыць: "трапіць у акцёра".

Пазнавальны тэмбр галасоў даравітых акцёраў таксама "адпавядае" настрою сцэнічных падзей... І тут акцёры выйшлі! Такой урачыстай цішыні ў родных тэатрах я даўно не адчувала. Шчыра скажу, надта хвалявалася: думала — шквал апладысментаў перашкодзіць спектаклю. Апладысментаў, якія заўсёды гучаць пры з'яўленні прымы на перыферыйнай сцэне. Ан-не! Гледачы рэагавалі годна і за пэўныя прафесійныя мізансцэны (іх было многа) выказвалі сваю ўдзячнасць. Усё ж такі адукаваная ў нас публіка, што несумненна задавальнне і выклікае слёзы радасці за дзяржаву культурную! Таццяна Дароніна, як і належыць зорцы, здзівіла ўвесь вечар. І кожны раз шчыра, таленавіта і нечакана. Актрыса заўсёды будзе заваёўваць залу сваім нязменным глыбокапачуццёвым голасам, прыгожым і разумным тварам, які не губляе сваёй жаноцкасці з цягам часу. На тое і існуе загадкавая моц мастацтва, а калі загадка яшчэ і Жанчына, то гэта не што іншае, як промысел боскі.

**P.S.** Дарэчы, аматары тэатра, здаецца, адчуваюць "поўны штыль" у прафесійных калектывах Мінска і засумавалі ў гэтым распачатым сезоне, таму і панылая пыталіся пра лішні квіток. Гледачы прагнуць сапраўднага мастацтва, да якога іх прывучылі менавіта айчынныя служыцелі Мельпамены. "Медждy протчым"!

**Вядучая рубрыкі Жанна ВАСАНСКАЯ**

# ХАРКЕВІЧ Аляксандр Іосіфавіч



Беларускае сцэнічнае мастацтва панесла цяжкую страту. У ноч з 6 на 7 лістапада 1997 года трагічна загінуў дырэктар Беларускага дзяржаўнага акадэмічнага драматычнага тэатра імя Якуба Коласа Аляксандр Іосіфавіч Харкевіч.

Нарадзіўся А.І.Харкевіч 3 чэрвеня 1950 года ў Віцебску. Закончыўшы сярэднюю школу, у 1968 годзе паступіў у студыю пры тэатры імя Якуба Коласа. Пасля службы ў Савецкай Арміі вярнуўся ў тэатр, працаваў спачатку мантыроўшчыкам, потым асістэнтам рэжысёра, загадчыкам трупы, галоўным адміністратарам.

У 1990 годзе скончыў Беларускі дзяржаўны тэатральна-мастацкі інстытут па спецыяльнасці тэатразнаўца-арганізатар тэатральнай справы і праз некаторы час быў прызначаны дырэктарам-распарадчыкам, а з сакавіка 1997 года дырэктарам тэатра імя Я.Коласа.

Прайшоўшы шлях ад вучанца студыі пры тэатры да яго дырэктара, А.І.Харкевіч заўсёды быў чалавекам вялікага, добрага сэрца, спагадлівым таварышам, уважлівым і чулым кіраўніком. Яго добра ведалі ў Віцебску і вобласці, любілі і цанілі як сумленнага чалавека і высокапрафесійнага спецыяліста тэатральных работнікі ўсёй краіны.

Працуючы на розных пасадах, Аляксандр Іосіфавіч Харкевіч заўжды заставаўся верным рыцарам тэатра, змагаўся за яго росквіт, марыў пра яго будучыню.

Нечаканая смерць вырвала з нашых шэрагаў гэтага сціплага, цудоўнага чалавека. Памяць пра яго назаўсёды застанецца ў сэрцах тых, хто добра ведаў яго, працаваў разам.

**А.Сасноўскі, У.Андрэйчанка, У.Кулакоў, У.Пелагейка, Л.Аленская, М.Яроменка, А.Дудараў, С.Акружная, А.Андросік, В.Баркоўскі, Р.Бузук, Г.Давыдзька, Г.Герасімовіч, Т.Кокштыс, А.Кірыенка, У.Куляшоў, В.Мазынскі, М.Пашынскі, Л.Трушко, Я.Шыпіла, Ф.Шмакаў.**

# ВЯРТАННЕ "ВУНДЭРКІНДА"

*(Заканчэнне. Пачатак у № 44.)*

### У Саколцы

Вясною 1920 года рэктар Менскага беларускага педагагічнага інстытута Вацлаў Іваноўскі намагаўся стварыць Беларускі нацыянальны універсітэт — накшталт Віленскага універсітэта імя Стэфана Баторыя. Іваноўскі запрасіў на пасады прафесараў і выкладчыкаў вышэйшай, як планавалася, беларускай школы лепшыя навуковыя сілы Беларусі. Сярод іх былі Максім Гарэцкі, Яўхім Карскі, Браніслаў Тарашкевіч, Мікалай Байкоў, Хведар Імшэнік, Станіслаў Любіч-Маеўскі, Ігнат Абдзіраловіч (Канчэўскі), Канстанцін Гадыцкі-Цвірка, ксёндз Фабіян Абрантовіч, Васіль Дружзыц і інш. Запрасіў Іваноўскі і Яна Тарасевіча. З Саколкі прыйшоў ліст, які пачынаецца так: «У астатніх днях мая я атрымаў ліст ад Педагагічнага Інстытута з прапановай прыслаць свае curiculum vitae і адказ аб магчымасьці майго пераезду ў Менск дзеля музыкальна-педагагічнай працы пры Інстытуце. Хоць Менск крыху і задалёка ад маёй мясьціны (Сакольскі павет Гарадз. губ.), дзе ў мяне ёсьць невялічкая зямельная собственасьць, але маючы ў віду прапанованую мне дзеяльнасьць, якая знаходзіцца ў межах любімай маёй працы, я з ахвотаю згаджаюся пераехаць у Менск. Што датычыць матэр'яльнага забесьпячэньня, то многага я не жадаю, бо жыцьцёвыя патрэбы мае даволі сьціплыя». Ліст датаваны 12 чэрвеня 1920 года.

Аднак ваенныя і палітычныя падзеі ў Беларусі перашкодзілі Іваноўскаму здзейсніць свае мары (па меншай меры, у жаданым накірунку). Тарасевіч застаўся ў Саколцы.

Годам раней, у лютым і красавіку 1919 года, напісаў ён два рамансы на вершы Максіма Багдановіча: «Песня» («Даўно ўжо целам я хварэю...» — памяці Грыкоўскага) і «Асенняя песня» («Плакала лета, зямлю пакідаючы...»). Творы гэтыя вельмі вабныя для нас не толькі ў гістарычным плане, але і па сваіх мастацкіх вартасцях. Гэтыя рамансы — першыя з вядомых нам сёння на вершы Максіма-кніжніка. У тым жа годзе былі напісаны кампазітарам хоры на вершы Якуба Коласа, Францішка Багушэвіча.

У гэты час Тарасевіч зарабляў прыватнымі ўрокамі музыкі ў Беластоку, Саколцы і Гродне, дзе, мяркуючы па падназве аднаго з твораў («Памяці Грыкоўскага»), ён быў знаёмы з нацыянальнымі дзеячамі. Алесь Грыкоўскі — дырэктар Гродзенскай беларускай школы, дзе выкладаў Тарасевіч, памёр 7 красавіка 1919 года. Менавіта ў гэты дзень кампазітар напісаў песню «Даўно ўжо целам я хварэю».

Пасля Рыжскай мірнай дамовы (1921 год) Тарасевіч, нікуды не з'язджаючы з радзімы, апынуўся ў межах новай для сябе дзяржавы. Што было рабіць? Ехаць у Савецкую Беларусь? Што чакала сына царскага падпалкоўніка, выпускніка кадэцкага корпуса, земляўласніка, інтэлігента з «буржуазным» дыпломам аб вышэйшай адукацыі ды яшчэ кавалера царскіх узнагарод? Што чакала па гэты бок мяжы асобу безумоўна дэмакратычных поглядаў? Пытанне рытарычнае. Ці куля, ці турма, ці высылка ў Сібір — вось і ўсе варыянты, як мы цяпер ведаем... А як жыць чалавеку, які аддае свой талент і ўсё жыццё беларускай ідэі ў дзяржаве, далёкай ад ліберальнага стаўлення да ўсяго беларускага?

Тарасевіч выбірае трэці шлях. Ён піша свае творы... у стол. І ніколі іх ужо не друкуе. Піяніст, які мог зрабіць, як сведчаць яго сябры, выдатную кар'еру сусветнага маштабу, амаль цалкам спыняе канцэртную дзейнасць. Зрэдку выступае, але толькі ў дабрачынных канцэртах. Іграе Бетховена, Ліста, Грыга, Шапэна, іншых рамантыкаў. Па-ранейшаму дэманструе велізарныя, практычна неабмежаваныя выканальніцкія здольнасці і тэхнічныя магчымасці. Кожны твор рыхтуе для выступлення абсалютна дакладна: аналізуе так, што пры гучанні найтанчэйшая інтанацыя, найдрабнейшая нота выказвае свой сэнс.

Былыя сябры, у тым ліку С. Рахманінаў і Я. Сібеліус, наведваюць яго ў маёнтку Шындзель, калі маршруты іх гастроляў пралягаюць праз Польшчу. Тарасевіч, як і раней, працуе з дзецьмі.

А як жа беларуская ідэя? Ці жыла яна ў душы кампазітара, як бы выгнанніка ў родным краі? Жыла — адказваюць самі творы: эцюды, полькі, санаты, вальсы. Нярэдка пад назваю твораў значыцца: «на беларускія тэмы». А перад выбухам другой сусветнай вайны па просьбе Беларускага таварыства Тарасевіч ездзіў у аколіцы Бельска-Падляшскага збіраць беларускі фальклор. Песні, сабраныя падчас вандроўкі, ён апрацаваў і выдаў-такі асобным выданнем.



Ян Тарасевіч. Канец 1950-х гадоў.






*Аўтографы Яна Тарасевіча: «Песня» («Даўно ўжо целам я хварэю...») і «Беларуская фантазія».*

### Вайна

Верасень 1939 года. З захаду наступаюць немцы, з усходу — савецкія войскі. Тарасевіч праз Гродна і Вільню накіроўваецца ў Латвію, дзе жыве ягоная сястра, а Рыжскай кансерваторыяй кіруе былы настаўнік, прафесар Язэп Віталь. У Латвіі ён займаецца сваёй звычайнай працай — выкладае дзецям фартэпіяннае мастацтва. Грошай на пражытак не хапала, і Тарасевіч пачаў яшчэ... маляваць. Хоць ніхто яго гэтаму не вучыў, ён, як прызнаюць прыхільнікі мастацтва з ягонага атачэння, маляваў цудоўна. У 1941 годзе Тарасевіч вяртаецца ў Саколку, але не знаходзіць свайго дома. Дом разбурылі, а хто — не пытаўся. Сабраў якія мог матэрыялы і збудаваў сваімі рукамі маленечкі домік, у якім і жыў аж да сканчэння вайны.

Не аднойчы звярталіся да яго з прапановамі супрацоўнічаць у беларускіх арганізацыях, што спадзяваліся ва ўмовах нямецкай акупацыі, як і падчас першай сусветнай вайны, стварыць беларускую дзяржаву. Тарасевіч катэгарычна адмаўляўся ад такога «супрацоўніцтва».

Пасля вайны ён хацеў перанесці свой домік, у якім правёў чатыры гады, на месца разбуранага маёнтка ў Шындзель, але ўлады забаранілі гэта, дый адабралі зямлю. І Тарасевіч пераехаў на жыхарства ў Беласток.

### У Беластоку

Зноў трэба пачынаць жыццё нанова. Уладкаваўшыся ў невялікім доме па вуліцы Бема, дзе і пражыў да скону, Тарасевіч узяўся шукаць працу. Выкладаць у школе фартэпіяна адразу не ўдалося. Чалавек для Беластока ён быў новы, месцы ў школах занятыя, ды і ў першыя пасляваенныя гады, напэўна, небагата было жадаючых вучыць дзяцей музыцы. Тарасевіч мусіў пайсці піяністам у рэстаранны ансамбль. Толькі ў 1947 годзе зноў пачаў займацца з дзецьмі ў адной з прыватных музычных школ, якая неўзабаве стала дзяржаўнай.

Аўтарытэт яго ў музычных колах рос хутка. Адкрытыя канцэрты ён не надта любіў, а калі ўжо іграў, дык больш для сяброў у сябе дома, а часам нават на Беластоцкім радыё. Аднойчы сыграў канцэрт толькі з уласных твораў.

Ён вельмі любіў дзяцей і дзеці хінуліся да яго. Чалавек Тарасевіч быў адкрыты, зычлівы, шмат што ўмеў рабіць, Захапляўся, як мы ўжо ведаем, маляваннем, сам змайстраваў сабе мэблю, кнігі пераплятаў, нават адліваў з бронзы статуэткі.

У той час у Тарасевічавым доме з'явіліся два хлапчукі, якім ён прысвяціў шэраг сваіх твораў. Гэта Анатоль Чарапіньскі і Юрка Максымюк. Абодва і сёння лічаць свайго настаўніка не проста добрым музыкантам, але чалавекам, які моцна паўплываў на выбар іх жыццёвага шляху. Чарапіньскі стаў доктарам мастацтвазнаўства ў галіне дойлідства. Максымюка ўвогуле няма патрэбы прадстаўляць — дырыжор з сусветным імем, піяніст і кампазітар, гонар сучаснай Польшчы. Ежы Максымюк, па яго словах, найбольш абавязаны сваім мастацкім развіццём Яну Тарасевічу.

Гады, тым часам, бралі сваё. Пасля вайны Тарасевіч менш іграе, а больш увагі аддае кампазіцыі. Яго пяро кладзе на нотныя аркушы, відаць, ужо для нашчадкаў — для нас з вамі — шматлікія фартэпіянныя п'есы: «Дзіцячы альбом», дзве «Сюіты», «Вялікі вальс-санату», цыклы прэлюдый, мазурак, эцюдаў, полькі, «Тарантэлу» і г. д. Але здароўе дае збоі. Недзе пад канец 50-х гадоў здарыўся інсульт, сэрца даўно аб сабе напамінала. Уначы 17 чэрвеня 1961 года яно спынілася назаўсёды. Завяшчанне было кароткае: пахаваць на праваслаўных могілках у Саколцы побач з Улазоўскімі, музычную спадчыну перадаць у Беларусь.

### Заключэнне

Спадчына кампазітара разнастайная: тут і харавыя творы, і рамансы на вершы беларускіх, рускіх, польскіх паэтаў, і камерныя творы для струнных інструментаў, ансамблі. Але самы вялікі набытак — фартэпіянны. Ужо згадваліся жанры, у якіх працаваў Ян Тарасевіч. Не названы толькі фартэпіянны Канцэрт — апошні, але, на жаль, не завершаны твор.

Паўстае пытанне, чаму Тарасевіч быў у Польшчы практычна невядомы? Думаецца, тут ёсць некалькі прычын. Першае — ён трымаўся таго кірунку, які даўно быў нямодны. Эстэтычная праграма кампазітара грунтавалася на рамантычнай традыцыі і ў нечым нагадвае шапэнаўскую. Як мы ведаем, польскія кампазітары XX стагоддзя імкнуліся ды, па сутнасці, імкнуцца па сёння быць у авангардзе музычных пошукаў. Авангард, верагодна, не вабіў, не спакушаў Тарасевіча. Ён не прымкнуў ні да адной музычнай плыні. І таму, натуральна, жыў, так бы мовіць, у паралельным свеце. Творы свае ён не друкаваў, і музычная грамадскасць не мела магчымасці хаця б даведацца пра існаванне адметнага творцы. Не выключана і тое, што, адчуваючы сябе беларускім кампазітарам, Тарасевіч проста не знаходзіў паразумення з тымі, ад каго магла б залежаць прапаганда ягоных твораў. Але пакуль што ўсё гэта здагадкі.

Светабачанне, светаўспрыманне Яна Тарасевіча інтымнае, часам нагадвае салоннасць. Багатая фантазія, развіты меладыйны дар, тэхнічная дасканаласць як у кампазіцыі, так і ў выкананні (а гэта вынікае з нотных тэкстаў і аўтарскага выканання твораў, стужка з якімі — у фондзе Беларускага радыё) — вось характэрныя рысы ягонай творчасці.

Як мяркуе прафесар Ігар Алоўнікаў, які прааналізаваў і выканаў некаторыя фартэпіянныя творы Яна Тарасевіча, такія ўзоры мастацтва мог напісаць толькі выдатны піяніст. Піяністу сярэдніх здольнасцяў асобных твораў Тарасевіча ён не раіць нават і кранацца. Вельмі цікавымі падаліся нам з Ганнай Каржанеўскай і вакальныя творы Яна Тарасевіча, а мастацкаму кіраўніку хору «Унія» Кірылу Насаеву — харавыя. Многія з іх ужо запісаны ў фонд Беларускага радыё, выконваліся ў філарманічных канцэртах і праграмах Беларускага тэлебачання.

Такім чынам, пачатак зроблены. Будзем вывучаць жыццё і творчасць Майстра — талент Яна Тарасевіча варты нашага прызнання. Ён абышоўся без славы. Але слава не абыдзецца без яго.

**Віктар СКОРАБАГАТАЎ**



Ежы Максымюк. 1959.



Анатоль Чарапіньскі. 1950.

***Як і яе папулярныя равеснікі — Яўген Еўтушэнка, Андрэй Вазнясенскі, Бэла Ахмадуліна, — яна чытала свае вершы на велізарных стадыёнах і ў вялікай зале Палітэхнічнага музея, дзе тысячы людзей слухалі яе, сцяўшы дыханне, баючыся прапусціць слова. Сёння, праз трыццаць пяць гадоў, Рыма Казакова паранейшаму творча актыўная і дзейная. Песні на яе словы спяваюць Ала Пугачова, Філіп Кіркораў, Аляксандр Сяроў і іншыя знакамітыя спевакі, а музыку да іх нярэдка піша Ігар Круты... Сёлета, у Дзень моладзі, паэтэса Рыма Казакова была ўзнагароджана Ганаровым дыпломам ІІІ Артыяды Расіі за актыўную працу з творчай моладдзю і кнігу публіцыстыкі "Возлюби". Наш карэспандэнт сустрэўся з пісьменніцай і паставіў перад ёю некалькі пытанняў.***



**Рыма КАЗАКОВА:**

# "Я ЎЗГАДАВАЛА САБЕ СУРАЗМОЎЦУ..."

**— Хто сёння ўваходзіць у вашу хатнюю "сямейную раду"?**

— Мой 36-гадовы сын Ягор, 16-гадовы ўнук Алёша і 5-гадовая ўнучка Маша.

**— Ваш сын таксама займаецца літаратурай?**

— Так, мой адзіны сын з дзяцінства, насуперак жаданню бацькоў (а ягоны бацька — Георгій Радаў — быў вядомым публіцыстам), марыў пайсці па іхнім шляху. Ён скончыў Літаратурны інстытут, дзе вучыўся на семінары прозы ў Анатоля Прыстаўкіна, выдаў зборнік апавяданняў. Акрамя гэтага, ён напісаў пяць раманаў, тры з іх апублікаваныя. Ягоны апошні раман — "Барацьба з Членсам" можна прачытаць у Internet.

**— Мне сустракаліся ягоныя філасофскія нататкі ў часопісе "Птюч"...**

— Цяпер ён пачаў актыўна займацца публіцыстыкай, друкуецца ў маладзёжных часопісах, уключаючы "Плейбой", мае свайго чытача, сваю чытацкую аўдыторыю. Гэта маё вялікае шчасце — я ўзгадавала сабе суразмоўцу, таварыша. Ягор — чалавек вельмі творчы, з ім заўсёды цікава. Ён даволі добра іграе на гітары — атрымаў музычную адукацыю. Такім чынам, з ім да таго ж і весела.

**— Мабыць, гледзячы на яго і на 16-гадовага ўнука Алёшу, вы часта ўзгадваеце свае ўласныя шаснаццаць гадоў...**

— Калі мне было шаснаццаць гадоў, я ненавідзела бацькоў за тое, што яны па начах гулялі ў прэферанс і перашкаджалі мне спаць. Я ненавідзела гэтую ідыёцкую гульню. І яшчэ я ненавідзела бацькоў за тое, што калі прыходзілі госці, мяне прымушалі чытаць вершы пра Зою Касмадзям'янскую, і госці, зазвычай, палкоўнікі і іхнія жонкі, пралівалі п'яныя слёзы, бо ім было шкада Зою, а я іх ненавідзела — амаль як нямецкіх фашыстаў, якія закатавалі Зою. Калі мне было шаснаццаць, я ўвесь час хацела есці, бо нягледзячы на тое, што вайна скончылася, час быў усё яшчэ галодным, і таму, калі бачыла які-небудзь піражок альбо булку, абсыпаную макам, у мяне (і ў маіх вантробах) нараджалася гарачая радасць.

**— Ну, а першыя рамантычныя перажыванні?**

— Калі мне было шаснаццаць, я не марыла закахацца, бо тады існавала асобнае навучанне, хлопчыкаў жывых мы, дзяўчынкі, у вочы не бачылі і не ведалі, што гэта такое. Марсіяне, іншапланецяне... Наш клас завочна сябраваў з курсантамі падрыхтоўчай марской вучэльні. Мы з імі весела перапісваліся, а калі яны адзін раз на год прыходзілі да нас у школу на вечарынку з танцамі, дык і яны, і мы ціснуліся да сцены: палохаліся адзін аднаго і пільных настаўнікаў. Калі мне было шаснаццаць, я не думала пра тое, як я выглядаю, але аднойчы, пачуўшы штосьці аб сабе ад сяброўак, папыталася ў мамы: "Я — непрыгожая?" Мама выказалася пераканаўча і рэзка: "Затое — разумная!" І на доўгія гады адсунула маю надзею.

**— Але, напэўна, кніга была вашым пастаянным суцяшэннем?**

— Калі мне было шаснаццаць, я павінна была ўвосень пераздаваць іспыт па літаратуры, якую не выносіла, бо кніг не было, а быў тупы падручнік Цімафеева, ад якога цягнула на ваніты. Таму падчас іспыту, выцягнуўшы білет пра Кацярыну, "прамень святла ў цёмным царстве", я прамармытала штосьці незразумелае і змоўкла, бо мае язык і горла не здолелі вымавіць сказы пра бедную Кацярыну і яе атачэнне, пра яе нешчаслівае каханне да такога ж нешчаслівага. За лета я, напалоханая, што нікуды не паступлю і нікім не стану, бо не атрымаю адукацыю, вывучыла напамяць уздоўж і ўпоперак падручнік і з цяжкасцямі, на "троечку" (падручнік і не быў варты большага) пераздала літаратуру і перапаўзла ў дзесяты клас. Калі мне было шаснаццаць, я вучылася вельмі кепска, хаця і добра. Добра з прычыны здольнасцяў, а кепска — таму, што зусім не вучылася і не працавала. Я не бачыла вялікай мэты, і ў мяне не ўзнікала вялікай энергіі. Зайшла аднойчы да сяброўкі, якая рыхтавалася паступаць у медыцынскі інстытут. Вочы ззяюць, твар худы і натхнёны, вывучыць анатомію, рука ляжыць на лысай галаве вучэбнага чэрапа. І ў мяне ўпершыню прачнуўся сорам за сваю ляноту. Але калі мне было шаснаццаць, ён так і застаўся сорамам.

**— Вы тады жылі ў адным з самых прыгожых гарадоў краіны — Ленінградзе...**

— У свае шаснаццаць я хацела паехаць з бацькоўскага дома — куды вочы глядзяць. Бацькі пастаянна сварыліся. Падчас вайны ў таты з'явілася іншая жонка і дзіця, але пасля вайны ён усё роўна вярнуўся да нас. Аднак міру ў сям'і не было, мама не даравала, тата не забыўся на тую, іншую жанчыну, у доме быў пах слёз, маны, здрады. Калі мне было шаснаццаць, я была вельмі нешчаслівая. І бачыла свой галодны, зласлівы, ускудлачаны адбітак у вітрынах крамаў, і мне хацелася плакаць. Як добра, што мне не шаснаццаць і ніколі ўжо не будзе шаснаццаць!

**— У юнацтве, скончыўшы гістарычны факультэт Ленінградскага універсітэта, вы паехалі працаваць ва Уладзівасток. І ўжо тады Твардоўскі нярэдка друкаваў вашы вершы на старонках "Нового мира" — самага прэстыжнага літаратурнага часопіса. Мне здавалася, што вы абавязкова павінны былі быць вундэркіндам.**

— Я заўсёды з недаверам ставілася да паэтычных вундэркіндаў. Мяне раздражняла, калі дарослыя псавалі іх ушчэнт з самага ранняга маленства сваёй занадта пільнай, прагнай увагай, за якой стаяла жаданне праславіцца з дапамогай дзіцяці альбо зрабіць маленькаму чалавечку кар'еру там, дзе яна немагчымая. Уласны паэтычны голас я пачула ў вершах 11-гадовай кіяўлянкі Дашы Шахавай, сапраўды таленавітай і не выстаўленай для ўсеагульнага агляду ў якасці вундэркінда. Асабліва запомніўся мне верш Дашы, прысвечаны маме: "Выразительный её взгляд,/ Пальцы гибкие и прозрачные,/ И в морских серых глазах/ Тайны мыслей, может, скрываются. / Каждый взгляд — это добро,/ Про улыбку сказать не смею./ Улыбнёшься ты один раз — / Белый голубь слетит с небес,/ Потому что ты любишь нас,/ Святой дух поселился в тебе".

**— Я чытала ў вашым перакладзе з англійскай вершы амерыканскіх дзяцей — 8-гадовай Саманты Афтэргот, 9-гадовага Джэймса Бартана, 11-гадовай Маро Каранэас.**

— Кажуць, ісціна гаворыць вуснамі дзіцяці. Ісціна гэтых вершаў гаворыць нам пра свет, дабрыню і шчасце. Некалькі гадоў таму спякотным летам на параходзе "Каралева Дэльты" я з маімі савецкімі і амерыканскімі калегамі па міжнародным міратворчым руху падарожнічала па вялікай рацэ Місісіпі з місіяй міру. Сярод амерыканскіх удзельнікаў нашай місіі была сімпатычная, добразычлівая, сталага веку жанчына, місіс Жэнэўева Наўлін. Даведаўшыся, што я — паэт, яна аднойчы падышла да мяне і працягнула найкаштоўнейшы падарунак: невялікі зборнік вершаў юных амерыканцаў з каліфарнійскай акругі Санта-Барбара. Зборнік называўся "Хто мы?". А ўнізе стаяла: "ЗША — СССР. Абмен вершамі". Я з задавальненнем чытала вершы амерыканскіх дзяцей, а некаторыя з іх пераклала на рускую мову.

**— А што вас больш за ўсё ўразіла падчас падарожжа па Амерыцы?**

— Мне было вельмі цікава бліжэй пазнаёміцца з амерыканкамі, паглядзець, чым яны падобныя да нас, а чым адрозніваюцца. Амерыканскія жанчыны трымаюцца вельмі свабодна, разняволена. Мне запомнілася, з якім гонарам распавядала пра сябе адна амерыканка: "Я — хатняя гаспадыня, маці трох дзяцей. Мужа ў мяне няма. Ёсць сябар, віла. Хачу змагацца за роўнасць жанчын — у адукацыі, у аплаце працы". Пра ўсё гэта яна казала з вялікай годнасцю. І я адразу ўзгадала нашых жанчын — сарамлівых, якія пастаянна ўцягваюць галаву ў плечы.

**— Напэўна, падчас кожнай паездкі нараджаюцца новыя вершы?**

— Безумоўна. Я нават напісала невялікі, прасценькі вершык на англійскай мове, які прачытала падчас сустрэчы, выклікаўшы здзіўленне і захапленне сярод амерыканскіх слухачоў. І яшчэ — у мяне з'явіўся цэлы цыкл іранічных лімерыкаў. Вось адзін з іх: "В Винспреде, за кофе и виски,/ Не зря собрались феминистки,/ И очень взаимен звучал голос women/ Какие серьёзные киски!"

**— Ну, а калі без жартаў — што вам асабліва спадабалася ў амерыканскіх жанчынах?**

— Мне імпануе тое, што яны не падманваюць, добразычлівыя. У цэлым нашыя народы падобныя: камунікабельныя нават з незнаёмым чалавекам. Маё адчуванне Амерыкі нарадзілася менавіта тады. У Германіі, Японіі я пачувалася як штосьці чужароднае, а ў Амерыцы — амаль як дома. Хаця я добра разумела — вакол зусім іншы свет.

**— А ці былі вы ў сталіцы ЗША?**

— Так. Калі мы прыляцелі ў Вашынгтон і я ўбачыла шыльду "Пентагон", у мяне пахаладзела спіна. Але ўражвала дабрадушнасць амерыканцаў, іхняе пастаяннае жаданне зразумець нас, наблізіцца. І тады я напісала вершы — першыя добразычлівыя радкі пра Амерыку ў савецкай паэзіі пасля эпохі халоднай вайны. Іх апублікавала "Литературная газета". У самалёце я напісала верш "У бок дома". Гэта былі вершы пра тое, што ўсе мы — і рускія, і амерыканцы — ляцім у бок дома, бо Зямля — наш агульны дом: "Мы не чужие, мы одного хотим,/ и пощадим мы хрупкость души от разлома./ Все ж на земле/ человеческий дом/ един./ Значит, летим с надеждой/ в сторону дома!"

**— Чаму ж так лёгка бывае часам адразу адрозніць нашу жанчыну ад амерыканкі?**

— Адзін амерыканскі фатограф неяк папытаўся ў мяне: "Вы не заўважылі, чым вашыя жанчыны адрозніваюцца ад нашых?" І тут жа адказаў сам: "Вашы трошкі лепей апранутыя". Нашы жанчыны прызвычаіліся "ў людзі" апранаць усё самае лепшае. Амерыканкі ж апранаюцца неахайна, свабодна, хто як хоча, ніхто не звяртае на гэта асаблівай увагі. Мяне ўзрадавала атмасфера ўнутранай свабоды, прага да ўсяго натуральнага. Культываванне здаровага ладу жыцця адбівалася на ўсім — нават у незвычайнай для нас салаце, зробленай з сырой капусты і сырых грыбоў-шампіньёнаў. Натуральнасць амерыканак часам здавалася выклікам: яны амаль не карысталіся касметыкай, не скажалі фарбай натуральны колер валасоў. Ні пудра, ні памада не ўдзельнічалі ў стварэнні вобраза амерыканскай жанчыны.

**— Часта наведваючы ЗША, ці не расчараваліся вы ў Амерыцы?**

— Не. Асабліва запомнілася падарожжа на цеплаходзе "Mary Queen", на якім мы плылі з Мінеапаліса да Сент-Луіса — падчас паездкі я напісала песню "Волга — Місісіпі", якую выконвала Таня Пятрова, і ўсе ёй падпявалі. Мяне трошкі здзівіла, што амерыканцы кепска ведаюць сваіх пісьменнікаў, гісторыю сваёй краіны... Усцешылі амерыканскія старыя жанчыны. Я нават напісала верш "Старэнькія амерыканкі": "Американские старушки/ обворожительно милы./ Их прыть, их ушки на макушке/ заслуживают похвалы./ Их время бесконечно длится,/ и мимо взглядов, пересуд/ они морщинистые лица/ с таким достоинством несут./ Они себе не изменяют,/ за старость юности не мстят,/ наряды каждый день меняют,/ кому-то нравиться хотят./ Американские старушки/ живут, на ладан не дыша,/ очаровательные душки,/ в которых теплится душа./ И, потолкавшись в их толпе, я/ улыбку шлю календарю/ и в зеркало смотрю смелее,/ и веселей на жизнь смотрю!".. Гэта, безумоўна, не значыць, што я пачала меней любіць нашых тамбоўскіх бабулек.

**— Улетку, я ведаю, вы зноў наведалі Вашынгтон...**

— Так, і ў мяне з'явілася асаблівае пачуццё — звыкласці. Безумоўна, вуліцы Вашынгтона прыгажэйшыя за вуліцы Ліпецка, але я і тут, і там у роўнай ступені хутка адаптавалася. На гэты раз больш за ўсё запомніўся вашынгтонскі заапарк — чысценькія жывёлы. Блішчаць, зіхацяць бялюткія палоскі ў зебры. Прыгожа! Але я б не здолела жыць у Амерыцы. Мяне задавальняе мая краіна — Расія. Я тут пачуваюся нармальна. Адна мая знаёмая спявачка прызналася: "Я ў Маскве ўначы — не сплю, бяссонніца, а ў Нью-Ёрку сплю спакойна". У мяне ж усё наадварот.

**— Але для тысяч эмігрантаў Амерыка стала Радзімай, родным домам, а Расія засталася ў памяці мачахай з казкі...**

— Я таксама ведаю нямала прыкладаў, калі ў ЗША прыязджалі рускія будаўнікі, фізікі, і Амерыка была добрай і шчодрай да іх. Дзякуй Амерыцы, якая дала прытулак гэтым таленавітым і працавітым людзям, якія хутка адчулі на сабе ўсе складанасці амерыканскага жыцця. Пазнаёміўшыся на практыцы з рынкавай эканомікай, я пачала лепей разумець Амерыку. Раней гэта быў чароўны, забаронены свет...

**— А што сёння больш за ўсё цэніць у Расіі і ЗША паэтка Рыма Казакова?**

— Мяне цяпер мала цікавіць палітыка. Я не сачу за Дзяржаўнай Думай, хаця ў 1994 годзе мяне спрабавалі туды абраць, і я ўдзельнічала ў афіцыйных сустрэчах творчай інтэлігенцыі з прэзідэнтам Ельцыным і генералам Лебедзем. Кожны знаходзіць у гэтым жыцці сваю нішу. І ў Расіі, і ў Амерыцы я цаню зялёную траву, жывёл, правілы дарожнага руху, калі яны зручныя, марожанае, прахожых, якія ветліва адказваюць, як трапіць у патрэбнае месца і дапамагаюць зусім незнаёмым людзям (мы так пакутавалі па дарозе ў заапарк з білетамі ў руках, але выпадковы прахожы проста выратаваў нас!)...

І яшчэ. У Амерыцы вельмі шмат тоўстых жанчын. І гэта суцяшае. Я падаюся сабе зграбнай — і мой комплекс паўнавартаснасці ўзмацняецца.

**Інтэрв'ю ў паэтэсы спецыяльна для штотыднёвіка "Культура" ўзяла пісьменніца Лола ЗВАНАРОВА.**

# СПАДАРОЖНІЦЫ ПАБЛА ПІКАСА, ЯКІЯ ЯНЫ?

Пабла Пікаса (Pablo Ruiz Blasco y Picasso), іспанскі мастак, нарадзіўся ў Малазе ў 1881 годзе ў сям'і выкладчыка малявання, вучыўся ў Барселонскай мастацкай школе, потым у Мадрыдзе. А калі маладому дараванню не стала ўжо чаму вучыцца, у 1900 годзе ён накіроўваецца ў Парыж, дзе на яго вялікі ўплыў зрабіў Тулуз-Латрэк. На працягу чатырох гадоў Пабла некалькі разоў вяртаецца ў Іспанію, пакуль не прымае канчатковае рашэнне — застацца ў Парыжы.

Улетку 1905 года ва ўзросце 23 гадоў ён закахаўся ў Фернанду Алію, натуршчыцу з Манмартра. Разам яны падзялялі і радасці жыцця, і жабрацтва. Не абыходзілася без п'янства і опіуму. У гэты перыяд змяніўся і зазіхацеў новымі фарбамі жывапіс Пабла Пікаса. Пачаўся так званы ружовы перыяд ягонай творчасці, які папярэднічаў кубізму. Вельмі хутка прыйшоў поспех, а разам з гэтым і ахалоджанне ў адносінах з Фернандай, якая кінула яго ў 1911 годзе, бо лічыла, што мастак стаў менеей яе кахаць. Першае каханне Пабла пакінула след у сусветным жывапісе. У 1907 годзе вялікім маэстра было створана палатно "Авіньёнскія дзяўчаты", якое цяпер разглядаецца як пачатак кубізму. Гэтая карціна зрабілася прычынай скандалу, але калі страсці сціхлі, яе змясцілі ў нью-ёркскім Музеі сучаснага мастацтва.



Не пашанцавала Пабла і з Евай Гуель, якая была ягонай спадарожніцай жыцця з 1911 па 1915 год. Ева, на жаль, памерла ад рака.

Сяргей Дзягілеў, які наладжваў у Еўропе прадстаўленні рускага балета, запрашае Пікаса як касцюмера і дэкаратара. Тут і пазнаёміліся іспанскі мастак Пабла і руская балерына, дачка палкоўніка, Вольга Хахлова. Яны пабраліся шлюбам 12 чэрвеня 1917 года і пасяліліся ў буржуазным квартале, дзе мастак працягваў плённа працаваць. На месца кубізму заступіў неакласіцызм.

А пазней месца Вольгі ў жыцці Пабла заняла Марыя-Тэрэза Вальтэр, з якой ён пазнаёміўся на парыжскім вакзале Сен-Лазар 6 лютага 1925 года. Ёй тады было 15 гадоў, яму — 28. Пабла давялося на працягу сямі гадоў хаваць сваю "Лаліту". Толькі ў 1932 годзе ў ягоным асяродку даведваюцца пра яе існаванне пасля таго, як мастак адлюстроўвае яе вобраз у карціне "Купальшчыца з мячом". А ў 1935 годзе, пасля канчатковага разрыву з Вольгай, Марыя-Тэрэза падарыла яму дачку Маю.

У гэтым жа годзе Поль Элюар пазнаёміў маста-



ка з маладой і абаяльнай Дорай Маар. Прырода ў роўнай ступені надзяліла яе прыгажосцю і талентам. Яна — натуршчыца, мастачка, фатограф. Пасля стварэння Пікаса карціны "Герніка" Дора зрабіла цудоўны фотарэпартаж. Карціна стала вяршыняй творчасці Пабла Пікаса і экспанавалася на міжнароднай выставе ў Іспаніі ў 1937 годзе. Іх каханне доўжылася восем гадоў, але жыццё было азмрочана вайной у Іспаніі, затым — акупацыяй Парыжа, дзе яны тады жылі. У 1943 годзе неспакойнае жыццё надакучвае мастаку і ён кідае Дору.

У гэтым жа годзе, калі Пабла было ўжо 62 гады, ён сустракае Францаузу Гіло, маладую мастачку ва ўзросце 21 года. На працягу трох гадоў яны гуляюць у "кошкі-мышкі". А ў 1946 годзе, пасля таго як Пабла Пікаса ўвекавечыў яе, стварыўшы карціну "Жанчына-кветка", яна пагадзілася жыць разам з ім на поўдні Францыі, дзе нарадзіла Клода (1943 год) і Палому (1949). Але надышоў час, калі Францауза надакучыла жыць з "гістарычным помнікам", і ў 1953 годзе яна разам з дзецьмі паехала ў Парыж, дзе выйшла замуж і з'ехала ў Амерыку.

Другой і апошняй жонкай Пабла Пікаса была Жаклін Рок, з якой ён ажаніўся ў 1961 годзе, будучы ўжо 9 гадоў удаўцом пасля смерці Вольгі. Пабла Пікаса пражыў свае апошнія гады з Жаклін у маёнтку ў Каннах. А праз трынаццаць гадоў пасля смерці Пікаса, у 1986 годзе, Жаклін добраахвотна пайшла з жыцця.

Яшчэ адна жанчына пакінула след у жыцці Пікаса. Гэта была багатая амерыканка Сара Мэрфі, якая нарадзілася, як і Пікаса, пад знакам Скарпіёна ў 1883 годзе. Іх пазнаёміў Сяргей Дзягілеў. З тае пары сем'і Пікаса і Мэрфі былі заўсёды разам (Сара была замужам і мела трое дзяцей), разам забаўляліся на маскарадах і нават адпачывалі на поўдні Францыі, куды прыехала таксама і маці Пікаса. Ёй не спадабалася нявестка Вольга. Усе сімпатыі былі на баку Сары, нягледзячы на яе экстравагантнасць. На пляж Сара апранала незвычайныя туалеты, любіла абутак на высокім абцасе і не развітвалася з упрыгожаннямі. Пабла напісаў яе партрэт, які захоўваў як рэліквію. Ніхто не ведаў пра іхняе каханне. Такімі яны былі, спадарожніцы Пабла Пікаса.

**Навум ЦЫПІС**
(Паводле матэрыялаў замежнай прэсы).

# КАЛІ ДЖОАН БАЭЗ ПРЫЕДЗЕ Ў ПРАГУ, ЦІ БУДЗЕ ВАЦЛАЎ ГАВЭЛ НЕСЦІ ЯЕ ГІТАРУ?



*"Каралева" фолька і Прэзідэнт Чэшскай Рэспублікі ў 1994 годзе.*

Джоан Баэз у свае 56 гадоў лічыцца папулярнай амерыканскай спявачкай і каралевай фолька. У Чэхіі яна была ўжо тры разы, і кожны яе прыезд стаў запамінальным. Летам 1989 года яна павінна была выступаць на фальклорным фестывалі "Браціслаўская ліра". Камуністычныя ўлады палічылі яе цудоўным госцем, і ў першую чаргу з-за цвёрдай пазіцыі спявачкі супраць вайны ў В'етнаме і яе выступленняў за правы чалавека. Але яны не ўлічылі, што за апошняе Джоан змагалася не толькі ў Амерыцы. Спявачка тайком правяла за сцэну, даўшы яму ў рукі сваю гітару, вядомага дысідэнта Вацлава Гавэла, якога толькі што выпусцілі з-за кратаў. Затым яна павітала Гавэла з трыбуны і запрасіла на сцэну. Раз'юшаныя арганізатары выключылі мікрафон. Праз год Джоан вярнулася ў краіну, дзе камуністычны рэжым быў звергнуты, і прадоўжыла свой канцэрт у Браціславе. У 1993 годзе яна выступала ў Празе. А ў 1994 годзе Джоан сустрэлася з Гавэлам, калі ён ужо быў прэзідэнтам, у Амерыцы, падчас яго афіцыйнага візіту. І тады, як і ў 1989 годзе, ён прапанаваў паднесці гітару.

**Фота ЧТК—БелТА**

# ПРЭЗІДЭНТ ЧЭХІІ — ФАНАТ РОК-МУЗЫКІ

У сваіх заявах апазіцыя афіцыйнага ўраду Чэхіі закранае пытанне аб "вышталцоным музычным гусце" прэзідэнта Чэшскай Рэспублікі Вацлава Гавэла і называе яго вялікім прыхільнікам творчасці Майкла Джэксана. Набліжаныя да кіраўніка дзяржавы дзеляцца сваімі ўражаннямі ад захаплення творчасцю караля поп-музыкі: усе ідэі, якія падабаюцца Прэзідэнту на ранішнім паседжанні, ён называе "майклаўскімі"; загадчык канцылярыі Прэзідэнта ЧР Іван Мэдэк паведамляе, што ў яго, як у сапраўднага музыказнаўцы, дух займае, калі ён чуе з-за дзвярэй прэзідэнцкага кабінета гучнае выкананне чарговай кампазіцыі Джэксана. А былы сакратар Прэзідэнта Аляксандр Н. пераконвае, што прычынай пераломy рэбраў у адной з афіцыйных паездак прэзідэнта была не лішняя шклянка алкагольных напояў, а спроба паўтарыць "месяцовую паходку" (moon walk).

Але нягледзячы на гэтыя падступствы, усе эксклюзіўныя інтэрв'ю Вацлава Гавэла сведчаць зусім адваротнае. Аўтар драм для тэатра абсурду называе сваім любімым гуртом "Ролінг Стоўнз" — "Іх творчасць мне асабліва блізкая". Што датычыцца канцэрта Майкла Джэксана, то Гавэл яго наведаў і назваў гэтае супер-шоу "найцікавейшым". Але разам з тым прэзідэнта можна сустрэць на кожнай музычнай нефармальнай акцыі, ва ўсякім разе, дзяржаўных маштабаў.

Разам з дванаццаццю тысячамі наведнікаў буйнейшай у краіне музычнай акцыі гэтага года Open Air Music Festival у Трутнаве (Усходняя Чэхія), прысвечанай Хартыі 77 (праграма, падпісаная дысідэнтамі і накіраваная супраць сацыялістычнага рэжыму), завітаў і прэзідэнт з жонкай. Сярод панкаў, металістаў, брытагаловых, хіпі і іншых асобаў культурнага андэграўнда яны прабавілі дзве з паловай гадзіны.

Гавэлы выкарысталі вольныя хвіліны (яны адпачывалі ў сваёй летняй рэзідэнцыі ў невялікім мястэчку Градэчак) і выдалі сябе — да вялікага незадавальнення варты — за прыхільнікаў розных музычных нефармальных жанраў, якія толькі ў Трутнаве можна было пачуць і пабачыць. Яны віталі гасцей фестывалю і не шкадавалі ўсмешак.

Пасля яны за кулісамі сустрэліся з былымі знаёмымі спевакамі, а таксама з арганізатарамі, пахвалілі ўзровень культуры і арганізацыю фэсту.

У сваім надзвычай насычаным працоўным дні Вацлаў Гавэл выкраіў хвілінку для наведвання гэтага свята, таму што, папершае, робіць гэта кожны год; па-другое, гэта для яго магчымасць убачыцца з былымі сябрамі. Яшчэ яго прываблівае атмасфера акцыі — "сярод маладых я сам маладзею". З выступленняў яго больш за ўсё цікавіў гурт "Хапрал Крэзі Плэск!" Гавэл шмат пра яго чуў ад гледачоў і ад рокерскай тусоўкі, але "Хапрал" спазніўся і прыехаў на дзень пазней. У прэзідэнцкай пары ўжо былі іншыя планы. "І хоць мне вельмі цікава сярод маладых людзей, у нас няма часу прыйсці сюды яшчэ раз", — сказала першая лэдзі Чэшскай Рэспублікі Дагмар Гавэл перад ад'ездам.

**P.S.** Калі адасобіцца ад палітыкі і звярнуцца да мастацтва, дык можна шмат чаго даведацца пра чалавека па яго густах. Ці ведаем мы прыхільнасці нашых палітыкаў?

**Таццяна АСКЕРКА**
(Паводле матэрыялаў замежнай прэсы).

## АДКАЗЫ НА КРЫЖАВАНКУ, НАДРУКАВАНУЮ Ў № 42

**Па гарызанталі:**
5. Мастак. 6.Мармур. 10. "Вянок". 11. Бабій. 12. Паркаль. 15. Тракай. 16. Паверх. 17. Алена. 18. "Праца". 21. "Бацька". 23. Позірк. 27. Часопіс. 29. Анфас. 30. Байка. 31. "Аберон". 32. Сідней.

**Па вертыкалі:**
1. Гавот. 2. Расказ. 3.Каралі. 4. Гумар. 7. Вячэра. 8. Бакал. 9. Літара. 13. Жалейка. 14. Карагод. 19. Талент. 20. Фрэска. 22. Скокі. 24. "Фараон". 25. Лірнік. 26. Фарба. 28. Балет.

К КУЛЬТУРА
ШТОТЫДНЁВАЯ ГРАМАДСКА-АСВЕТНІЦКАЯ ГАЗЕТА
Выдаецца з кастрычніка 1991 года

Заснавальнік — Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь

Галоўны рэдактар — Людміла КРУШЫНСКАЯ





Рэгістрацыйнае пасведчанне № 418.

Адрас рэдакцыі:
220029, МІНСК (МЕНСК), вул. ЧЫЧЭРЫНА, 1.
Тэлефон: (017) 276-94-66

Рукапісы аб'ёмам больш за адзін аўтарскі аркуш не прымаюцца.

Аўтарскія рукапісы не рэцэнзуюцца і не вяртаюцца.

Меркаванні аўтара могуць не адпавядаць пункту гледжання рэдакцыі.

Аўтары нясуць адказнасць за дакладнасць матэрыялаў.



Фармат А3.
Індэкс 63875.
Агульны наклад 4091.

Падпісана ў свет 13.11.97. у 18.00.

Замова 6776

Друкарня выдавецтва "Беларускі Дом друку".
220013, г. Мінск, пр. Ф. Скарыны, 79.

М. 1, 2, 3, 4, 5, 6, 7, 8, 9, 10, 11, 12.
Д. 1, 2, 3, 4, 5, 6, 7, 8, 9, 10, 11, 12.